# ГОЛАС ЦАРКВЫ

РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ
Выдае Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы
"The Voice of the Church", Published by the Council of the
Byelorussian Autocephalic Orthodox Church
**401 Atlantic Ave., Brooklyn, New York 11217, U.S.A. Price $2.00**

No.54 ТРАВЕНЬ – 1983 – MAY Год.29

# Вялікоднае Архіпастырскае ПАСЛАНЬНЕ

## САБОРУ ЕПІСКАПАЎ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ

*„Уваскрэсьні, Божа, судзі зямлю,*
*бо Ты насьлядуеш усе народы."*
(Псал.82,8)

*ХРЫСТОС УВАСКРОС!*

Богалюбныя й Дарагія Браты і Сёстры!

Трагедыя Вялікае Пятніцы мінула. Ісуса Хрыста пахавалі. Апосталы разьбегліся. Настала цемра... Зямля затраслася... Завеса царкоўная разадралася. Запанаваў прыгнечаны настрой, страх і сум. Апосталы забыліся пра словы Хрыста „Вы сумныя будзеце, але сум Ваш у радасьць зьменіцца" (Ян.16,20). Надзеі іхныя разьвеяліся ў абліччы прыгнобленай сапраўднасьці, якая сталася на Галгофе. Здавалася, што ўсё для іх страчана: любоў іхная ўкрыжаваная, чэсьць патаптаная, надзея згубленая. Думка пра Ўваскрасеньне, пра перамогу над сьмерцю, пра прыход сьветлага вечнага жыцьця была для іх незразумелаю. Яны назаўсёды страцілі свайго Мэсію й Настаўніка. Хрыстос памёр. Яго пахавалі. Варта пастаўлена ля гробу. Зьніклі надзеі на Сына Божага і Блізкіх Яго.

Але нядоўга трывала такая роспач. На трэйці дзень пасьля паховінаў, раптам перапалоханыя жоны-міраносіцы паведамілі, што Ангел адваліў камень ад гробу і зямная варта ўступіла месца варце нябеснай.

ХРЫСТОС УВАСКРОС! Паўстала зьбянтэжанасьць тых, што Яго судзілі і вялікая радасьць тых, што ўвералі ў Яго. А аб тым, што Ўваскрасеньне Хрыстовае сталася для людзей ня толькі крыніцаю руховае радасьці, але і асноваю веры і надзеі, апостал Павал так гаворыць: „Калі-б Хрыстос не

ўваскрос, дык і навука нашая дарэмнаю была-б, дарэмнаю і вера нашая" (1 Кар.15, 14). „Я ёсьць уваскрасеньне і жыцьцё; хто веруе ў Мне, хоць і памрэ, жыць будзе" сказаў Хрыстос (Ян.II,25).

Праз Уваскрасеньне Хрыстовае перамагаецца бязьвер'е і зьнікае сумніў аб тым, што чалавек можа выратавацца без веры. А таму для тых, што да ўсяго адносяцца з недаверам застаюцца дзьве дарогі, або пагадзіцца і прыняць навуку Хрыстовую, ды разам з веруючымі праслаўляць Уваскосшага Госпада, або і далей касьцянець у сваім няверстве.

У часе-ж гэтага ўрачыстага Сьвята ёсьць магчымасьць задумацца і тым, якія жывуць паза царкоўнаю агарожаю, ды хочуць царкоўнае жыцьцё вырашаць сваімі чалавечымі сіламі, сваім розумам і навукаю, ды ўверавацъ, што Ўваскрасеньне Хрыстовае, ёсьць нявычэрпнаю крыніцаю вечнага быцьця, вечнаю творчаю сілаю й прагрэсам бязьмежнае дасканаласьці.

Сваім Уваскрасеньнем Сын Божы запэўніў усім перамогу над злом і чалавечымі грахамі. Таму няхай запануе між намі любоў і пашана да нашай роднай Маці Б.А.П.Ц., якая ёсьць Царквою праўдзіваю, роднаю для нашага Беларускага Народу. Толькі свая нацыянальная Царква прыносіла нам славу і давала сілу для існаваньня. Наш народ ня ведае іншае Царквы, а толькі Царкву Спрадвечную Праваслаўную.

У сваёй роднай Царкве мы стала чуем такія Цудоўныя Словы Хрыста: Мір вам! Няхай мір Мой будзе з Вамі. І мы ведаем, што толькі Мір-Супакой Хрыста можа быць асноваю жыцьця: у сям'і, у грамадзе, у дзяржаве і ўва ўсім сьвеце, бо гэты Мір-супакой зьяўляецца асноваю нашага злучэньня з Богам – Спасам нашым.

Голгофа, якую цяпер перажывае нашая Царква не павінна прычыняць нам роспачы, бо Збаўца наш выразна прамаўляе да нас: не сумуйце, бо кожная Галгофа будзе пераможана, калі народ будзе любіць і шанаваць сваю Царкву. Таму няхай ўзмацняецца давер і любоў наша да свае Роднае Царквы!

Няхай між намі запануе любоў і да ўсіх нашых культурных здабыткаў, каб узмоцніліся нашыя сілы і здольнасьці.

Вялікоднае Цуда станецца для нас ясным і запэўненым, калі мы будзем моцна верыць у Госпада Бога і любіць адзін аднаго так, як Уваскросшы Хрыстос любіць усіх нас! Калі мы будзем заўсёды жыць у братняй згодзе і будзем моцна аб'яднанымі, тады адчуем ласку Ўваскрасеньня Хрыстовага ўсім нашым сэрцам! Таму прасем Госпада, каб удастоіў нас успрыняць Хрыста ўсёю нашаю істотнаю сілаю з вялікай радасьцю, бо Ўваскрасеньне Хрыста, гэта самая радасная падзея, якая ёсьць спасеньнем і радасьцю нашай.

Дарагія Браты і Сёстры! З гэткімі думкамі і разважаньнямі ды шчырымі Вялікоднымі пажаданьнямі сардэчна вітаем Вас, Усячэсныя Айцы, любыя Браты і Сёстры і ўвесь Беларускі Народ, з Вялікім і Радасным Сьвятам, Уваскрасеньнем Хрыстовым – Вялікаднем! Хрыстос Уваскрос!

Няхай гэтае Вялікоднае прывітаньне перапоўніць Вашыя душы пачуцьцём сапраўднае радасьці ў адказе – ЗАПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!

А Мір Божы, які вышэй за ўсякі розум, няхай захавае сэрцы Вашыя і мысьлі Вашыя ў Хрысьце Ісусе. (Філ.4,7).

Супакой, любоў і Ласка Госпада нашага Ісуса Хрыста, любоў Бога Айца і лучнасьць са Сьвятым Духам няхай будзе усім Вам цяпер, усечасна і павек вякоў. Амін.



**Вялікдзень, лета Божага 1983**

Пакорны ў Богу +МІТРАПАЛІТ АНДРЭЙ
Пакорны ў Богу +ЕПІСКАП ІЗЯСЛАЎ

# Вялікоднае Яйцо

Пры цалаваньні й прывітаньні веруючыя пастарадаўнаму звычаю даруюць адзін другому яйцо. Яйцо наагул ёсьць сымбалем жыцьця. У гэтым выпадку яйцо служыць сымбалем Уваскрасеньня Ісуса Хрыста.

Падобна таму, як з яйца, з-пад мёртвае яго скарлупы нараджаецца новае жыцьцё, – так і Хрыстос, Госпад наш, лежачы ў гробе, мёртвым, уваскрос з гэтага жылішча сьмерці да новага жыцьця.

Вось таму, яйцо зьяўляецца дасканалым сымбалем і нашага адраджэньня ў жыцьцё вечнае. Як зь яйца нараджаецца жывое існаваньне, калі вызваліцца са скарлупы, маючы ў сабе яго зародыш, так пры другім прыходзе Госпада Ісуса Хрыста на зямлю і мы адкінем усё сатлелае тут, дзе маем ужо зародак і пачатак вечнага быцьця – сілаю Ўваскрасеньня Хрыстовага, адродзімся й уваскрэсьнем да новага жыцьця.

Далей, яйцо прадстаўляе два нашыя станы: цяперашні й будучы. З аднаго боку, як у яйцы ўжо знаходзіцца зачатак будучай істоты, ужо праяўляецца жыцьцё, хоць ня поўнае яшчэ, недасканалае, гэтак і мы пры цяперашнім зямным існаваньні ня поўнасьцю яшчэ дасягаем заспакаеньня належных нашай душы вышэйшых імкненьняў да праўды, дабра й шчасьця. З другога боку, як істота, вышаўшая з яйца, пачынае жыць поўным жыцьцём, задавольвае розныя свае патрэбнасьці, так і мы па ўваскрасеньні ўступім у сапраўднае жыцьцё, дзе наш розум спазнае праўду поўнасьцю, воля дасягне вышэйшага маральнага разьвіцьця, а пачуцьцё будзе насалоджвацца безканечным шчасьцем.

Пахварбованае чырвонаю хварбаю яйцо напамінае нам пра тое, што нашае новае жыцьцё здабыта прачыстаю Крывёю Госпада Ісуса Хрыста; бо гэты колер належыць да ясных колераў, што зьяўляецца адзнакай нашай радасьці аб перамозе над сьмерцю, аб Яго Ўваскрасеньні з мертвых і выпаўненьне Ім справы нашага адкупленьня.

Звычай узаемнага абмену яйкам, паводле захаванае традыцыі Праваслаўнае Царквы, сваім пачаткам належыць сьв. Марыі Магдалене, якая прынесла імпэратару Тывэрыю чырвонае яйцо з прывітаньнем „Хрыстос Уваскрос!"

Прынясеньнем імпэратару Тывэрыю так малога падарунку як яйцо, сьв. Марыя Магдалена выпаўніла просты старавечны звычай. У старажытнасьці ў язычнікаў і ў юдэяў быў звычай, наведваючыся да важнай асобы, асабліва ў першы раз, паднясьці ёй які небудзь падарунак у адзнаку паважаньня й любові. Людзі бедныя, у такіх выпадках, звычайна прыносілі фрукты й яйкі дамовых птушак. Дзеля гэтага сьв. Марыя Магдалена, пасьвяціўшы сябе апостальскай справе, зьвязанай з беднасьцю й недастаткамі, прышла да імпэратара з Евангельскай пропаведзьдзю, ушанавала яго пада-

рункам, належным ад звычайных бедных людзей – зразумела, што гэта было ведама й імп. Тывэрыю.

Падносячы імп. Тывэрыю чырвонае яйцо з прывітальнымі словамі „Хрыстос Уваскрос", яна пры гэтым расказала й аб важнейшых падзеях з зямнога жыцьця Спасіцеля, а асабліва аб непавінных мучэньнях і Ягонай крыжовай сьмерці. Пачуўшы гэта Тывэрый моцна разгневаўся за несправядлівыя ўчынкі пракурора Пілата й першасьвяшчэньніка Каяфы ды моцна іх за гэта пакараў.

Першыя хрысьціяне, даведаўшыся аб простасардэчным падарунку сьв. раўнаапостальскай Мпрыі Магдалены, пачалі насьледваць яе й пры ўспаміне Ўваскрасеньня Хрыстовага пачалі й самі дарыць адзін аднаму чырвоныя яйкі. Звычай гэты мала-па-малу распаўсюдзіўся й зрабіўся ўсеагульным сярод хрысьціянства.

Гэты прыгожы звычай перахоўваецца й сярод Беларускага Народу на Бацькаўшчыне Беларусі, а таксама і сярод Беларусаў параскіданых па ўсім сьвеце.

# Узьнясеньне Госпада Нашага Ісуса Хрыста на Неба

Пасьля Свайго слаўнага Ўваскрасеньня, Госпад наш Ісус Хрыстос часта зьяўляўся Сваім Сьв. апосталам і навучаў іх таямніцаў Ўладарства Божага. На 40-ыж дзень пасьля Свайго Ўваскрасеньня Ён апошні раз зьявіўся ім і загадаў, каб не адлучаліся з Ерусаліму і чакалі на зыход на іх Духа Сьвятога. У вызначаны дзень, калі гутарка была закончана, Госпад павёў вучняў на гару Аліўную.

Падняўшыся на самы верх гары, Хрыстос пераказаў апосталам апошні Свой запавет, прыракаючы ім, што будзе зь імі ў-ва ўсе дні да сканчэньня веку (Мац.28,20) і дасьць ім сілу прадаўжаць Ягоную навуку на зямлі. Тады, падняўшы рукі Свае, багаславіў іх і пачаў аддаляцца ад іх, а сьветлае воблака закрыла Яго ад вачэй іхніх.

Бачучы гэтае незвычайнае цуда, апосталы не маглі адарваць сваіх вачэй ад Неба, куды ўзносіўся іхны Боскі Настаўнік. Упаўшы на калені і пабожна злажыўшы рукі, яны яшчэ некаторы час глядзелі ўверх, аж пакуль не зьявіліся перад імі два ангелы ў белым адзеньні і сказалі: „Мужы Галілейскія! Чаго Вы ўзіраецеся на неба? Гэта Ісус, узьняты ад вас на неба, прыйдзе ізноў гэтак сама, як бачылі вы Яго, узыходзячым на неба." І схілілі нізка апосталы свае галавы перад Госпадам і радасна вярнуліся ў Ерусалім.

Узьнёсшыся на неба Хрыстос сеў праваруч Свайго Айца на пасадзе славы Яго, як наш Пасярэднік і Збавіцель.

Якое-ж значэньне мае для нас сьвята Ўзьнясеньня Гасподняга? Сьвяты Ян Златавусны кажа, што яно ёсьць крыніцаю нашае радасьці і пацехі, бо сеўшы праваруч Айца Сын Божы прымірыў з Айцом Сваім увесь людзкі род. А Сьвяты Васіль Вялікі ўсклікае: „Узрадуемся і ўзвесялімся! Бо Ўваскрасеньне Хрыстовае ёсьць нашай надзеяй, а Ягонае Ўзьнясеньне – нашым



праслаўленьнем! Цела зямное ўзята на неба! Косьці нядаўна замкнёныя ў Гробе ўзьнесеныя на неба! Сьмяротная прырода сталася несьмяротнаю."

Так магутна й слаўна ўзыйшоў на неба Хрыстос, каб адтуль паслаць апосталам Пацяшацеля Духа Сьвятога, каторы-б узмоцніў, прасьвятліў і натхняў людзей добрай волі да цяжкой працы для будовы сьв. Хрыстовае Царквы на зямлі.

Узьнёсся Хрыстос на неба каб з Нябёсных вышыняў глядзець на нас – Дзяцей Сваіх, каб прыйсьці з дапамогаю, пацехаю, ляскаю да засмучаных душаў нашых.

Цуда Ўзьнясеньня, якое сталася ў прысутнасьці апосталаў, і якое сваімі вачамі бачылі іншыя прысутныя, сьветчыць аб тым, што Хрыстовая навука на зямлі закончылася радасным трыюмфам. Прысутныя вярталіся з тае падзеі ня з сумам, як звычайна бывае ў часе разьвітаньня, а вярталіся з вялікаю небудзённаю радасьцю.

Сьвята Ўзьнясеньня гэта дзень услаўленьня Хрыста Збавіцеля, Які, як Пераможца жыцьця над сьмерцю, пасьля выкананьня Свайго Боскага заданьня вярнуўся на неба. Ён узвысіў нашую людзкую прыроду да найвышэйшае годнасьці, каб мы ўдастоіліся Ласкі Божае. Узьнясеньне пераконвае нас пра існаваньне ўладарства Божага, пра неба, і пра існаваньне духовага жыцьця з нашым Госпадам. Праз Увазьнясеньне Гасподняе адкрываюцца дзьверы ўсім, што веруюць, у Ягонае Ўладарства.

Сьвята Ўзьнясеньня вучыць нас і прыпамінае нам, што на зямлі мы жывем толькі часова і, што жыцьцё нам дадзена дзеля таго, каб мы сваім розумам, свабоднаю воляю, і дарогаю добрых справаў, заслужылі сабе месца ў Яго Ўладарстве. Апостал кажа: „Ня маем тут сталага месца, але шукаем таго, што мае быць". (Да жыдоў 13,14). Апошняе нашае ўслаўленьне можа быць асягнена працаю і цярпеньнем. „Хто вытрывае да канца, спасецца." (Мац.24,13). Праз Сваё Ўзьнясеньне на неба Сын Божы ізноў вярнуўся да Бога Айца. Здавалася-б, што для людзей і Царквы было-б лепш, каб Хрыстос застаўся на зямлі. Аднак такія думкі і мяркаваньні ня былі-б згоднымі з плянам Божым дзеля нашага спасеньня.

Хрыстос сеў праваруч Бога Айца й гэтым адкрыў Неба для ўсіх хрысьціянаў, а ў тым ліку і для нас грэшных, каб мы ўсе былі годнымі асягненьня Вечнага Ўладарства і каб мелі штодзённую радасьць. Зварочваючыся да апосталаў Хрыстос не адзін раз казаў ім: „Няхай не сумуе сэрца вашае... іду прыгатаваць вам месца ... каб і вы былі там, дзе Я!" (Ян. 14,2–3). „Я з вамі і ніхто не пераможа вас..." Але ці Ён з усімі намі? О, не – Ён толькі з тымі, хто ідзе за Хрыстом, хто любіць і кліча Яго, хто жыве згодна Яго навукі. Так, толькі з тымі Хрыстос, хто думкамі і сэрцам шукаюць Яго, хто больш думае пра нябеснае, а ня дбае толькі пра зямное, бо ня ў гэтым мэта нашага дачаснага жыцьця.

Тых людзей, інтарэсы якіх сягаюць толькі асабістых выгадаў, і якія дбаюць толькі пра сваё цела – Хрыстос называе „паганамі" (Мац.6,3-2). А ў сьвецкім жыцьці іх называюць „матэрыялістамі". Злыдзень, спакушаючы Хрыста ў пустыні дамагаўся каб Сын Божы Сваю навуку тварыў на матарыяльным прынцыпе, каб „камень стаўся хлебам", а Хрыстос адказаў яму: „Не адным хлебам жыць будзе чалавек, але і Словам, выходзячым з Вуснаў Божых" (Мац.4,3-6). І ў жыцьці кожнага на зямлі ёсьць-жа нешта вышэйшае за хлеб і важнейшае за цела – гэта Краса і Ласка Божая, а за

гэтым заўсёды і сумуе чалавечая душа.

Таму няхай нашыя думкі і сэрцы якнайчасьцей узносяцца да Таго, Каторы Ўзыйшоў на неба і сеў праваруч Бога Айца. Шукайма Яго! Пра найважнейшае думайма! Тады і Хрыстос будзе з намі і ніхто не пераможа нас і нашае Сьвятое Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы!

# Сьвяточныя Вітаньні

На сьвяты Нараджэньня й Уваскрасеньня Хрыстовага прывітаньні для Ўладыкі Мітрапаліта АНДРЭЯ, для духавенства й вернікаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы былі атрыманы:

*Ад Усяленскага Патрыярха Дэмэтрыёса;*

Ад Нікалаоса VI, Папы–Патрыярха Александрыйскага;

*Ад Патрыярха Антыяхійскага Ігнатіоса;*

Ад Патрыярха Ерусалімскага Діодораса;

*Ад Архіепіскапа Кіпрыйскага Хрызастомаса;*

Ад Экзарха Канстантынопальскага Патрыярха на Амэрыку Архіепіскапа Яковаса;

*Ад Мітрапаліта Ўкраінскае Праваслаўнае Царквы ў ЗША, Уладыкі Мсьціслава;*

Ад Мітрапаліта Амэрыканскае Праваслаўнае Кат.Царквы ў Амэрыцы Дзімітры;

*Ад Епіскапа Карпатарускае Праваслаўнае Царквы ў ЗША, Яна Р. Марціна;*

Ад Епіскапа Сэрбскае Праваслаўнае Царквы ў ЗША Ірынэя.

# Пастанова Сабору Епіскапаў

Мы, Сабор Епіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, з Ласкі Божае пакорныя слугі Ўсявышняга, славячы Сьвятую, Адзінаістотную, Жыцьцятворчую й Непадзельную Тройцу Айца й Сына й Сьвятога Духа, спакойна й усебакова разгледзіўшы на сэсіі Сабору Епіскапаў у Катэдральным Саборы Сьв.Кірылы Тураўскага ў Брукліне, Нью Ёрк, дня 5-га лютага 1983 году, шкодную для нашай Царквы дзейнасьць былога Архіепіскапа Мікалая, пастанавілі:

(1) Пацьвердзіць і ўвесьці ў сілу пастанову Сабору Епіскапаў БАПЦ ад 7-га жніўня 1982 году, якою Архіепіскап Мікалай /1/ экскамунікаваны й адлучаны ад Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, /2/ пазбаўлены епіскапскага сану й /3/ выкрэсьлены са сьпіску духавенства БАПЦ, /4/ духавенству БАПЦ забаронена служыць з б.Архіеп.Мікалаем, ці памінаць яго ў час Багаслужбаў.

(2) Сьцьвердзіць і падаць да агульнага ведама, што выкананьне вышэй памянутай пастановы Сабору Епіскапаў было знарок адложана, каб даць



> З ВЯЛІКАДНЕМ
> УВАСКРАСЕНЬНЯ ХРЫСТОВАГА
> *Вітаем*
> Блажэньнейшага Ўладыку Мітрапаліта *АНДРЭЯ*
> *і*
> Прэасьвяшчэннага Епіскапа *ІЗЯСЛАВА*
> Дастойнае Сьвятарства і ўвесь клер царкоўны,
> Парахвіяльныя Рады, Брацтвы й Сястрыцтвы,
> ды ўсіх вернікаў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы
> і ўвесь Беларускі Народ
> на Радзіме й на чужыне.
> *ХРЫСТОС УВАСКРОС!* *ЗАПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!*
> *Кансысторыя й Рада БАПЦ*

б.Архіепіскапу Мікалаю нагоду асабіста апраўдацца перад Саборам Епіскапаў, пакаяцца ў сваіх цяжкіх грахах і гэтым памагчы спыніць узьнятыя ім-жа бунты супраць Першагерарха БАПЦ, яго Блажэнства Мітрапаліта Андрэя. Нажаль ён з гэтай нагоды не скарыстаў і не зьявіўся на сэсіі Сабору Епіскапаў у дні 7.VIII.82, 8.X.82 і 5.II.83, хоць і быў своечасна паведамлены, ды запрошаны пісьмова й тэлефанічна.

(3) Сьцьвердзіць, што б.Арх.Мікалай за ўвесь гэты час надалей прадаўжае сваю злачынна-разбуральную дзейнасьць у БАПЦ, ломячы сваю епіскапскую прысягу праз шматразовае парушэньне Апостальскіх правілаў: 10, 11,16,28,32,34 і 35, канону 2 Другога Ўсяленскага Сабору, канону 20 Шостага Ўсяленскага Сабору, канонаў 4,6,22 Антыяхійскага Сабору й правілаў 10,12,13 і 16 Статуту БАПЦ, а паіменна:

/а/ Насуперак пастановы Сабору Епіскапаў ад 16 травеня 1981 году, якой ён быў пазбаўлены ўсіх епархіяльных пасадаў і забаронены ў епіскапскай дзейнасьці ў БАПЦ, ён прадаўжаў няпраўна выступаць сярод вернікаў і навонкі як епіскап БАПЦ, як Кіруючы Епіскап Эўрапэйскай Епархіі й нават як Кіруючы Епіскап Амэрыканскай Епархіі БАПЦ, самавольна й бяспраўна ўмешваючыся ў адміністрацыйныя справы й пераймаючы парахвіі іншае Епархіі.

/б/ Бяспраўна й безадказна ўстанаўляў у сане расстрыжаных і звольненых сьвятароў ды самавольна, бяз ведама й згоды Першагерарха, рукапалагаў у сьвятары кандыдатаў недастойных сьвятарскага сану.

/в/ Пашыраў у БАПЦ хвальшываю дактрыну прымату вернікаў перад духавенствам, падбураючы гэтым людзей супраць Герархаў і так узды-маючы ў нашай Царкве беспадстаўныя закалоты й бунты.

/г/ Даваў у сьвецкім судзе нязгодныя з праўдай асьведчаньні супраць Першагерарха БАПЦ і Епіскапа Ізяслава.

/д/ Злосна й цалкам беспадстаўна пашыраў у БАПЦ ідэю непрызнаньня хіратоніі Епіскапа Ізяслава, заагняючы гэтым і паглыбляючы бунт супраць Кіраўніцтва БАПЦ.

/е/ Дня 1-га травеня 1982 г. падпісаў і выслаў Першагерарху БАПЦ ліста, у якім самавольна зрокся свайго становішча й паведаміў аб спыненьні свае дзейнасьці ў БАПЦ, ды аб адыходзе на супачынак.

/ж/ Дня 23 студзеня 1983 г. самавольна й беспраўна, бяз ведама й згоды Першагерарха й Кансысторыі БАПЦ разаслаў паведамленьні пра скліканьне ім-жа „Надзвычайнага Сабору БАПЦ", які ў абліччы наяўных схізматычных тэндэнцыяў пагражае разломам і фактычнай ліквідацыяй нашай Царквы.

(4) У сілу вышэй прыведзеных фактаў прызнаць, што ўся дзейнасьць былога Архіепіскапа Мікалая (у прыватным жыцьці Міхаіла Мацукевіча) за мінулыя тры гады выразна кіравалася, сьведама ці падсьведама, на ліквідацыю Сьвятой Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Факты сьведчаць, далей, што чалавек гэты яўна не валодае сабою, больш а падлягае дыктату супраць-царкоўнае варожае сілы. Як такога, лічыць яго пазбаўленым ня толькі епіскапскага сану, але й сьвятарскага, ды манаскага званьня.

(5) Падпісаныя копіі гэтае пастановы даручыць Кансысторыі неадкладна выслаць да ведама самому Міхаілу Мацукевічу, падаць да ведама ўсіх Парахвіяў БАПЦ, ды апублікаваць у прэсе.

*– Лета Божага 1983, 5-га лютага*

+Мітрапаліт АНДРЭЙ, Першагерарх БАПЦ
+Епіскап ІЗЯСЛАЎ

# Распараджаньне Мітрапаліта

## ВЫСОКАДАСТОЙНЫМ НАСТАЯЦЕЛЯМ ПАРАФІЯЛЬНЫМ РАДАМ І БАГАЛЮБНЫМ ВЕРНІКАМ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ

На аснове пастановы Сабору Япіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ад дня 5-га лютага 1983 г. згодна якой б. Архіяпіскап Мікалай канчаткова пазбаўлены годнасьці япіскапскага сану й адлучаны ад БАПЦ, а беспраўна распачатыя ім захады на скліканьне г.зв. „Надзвычайнага Сабору БАПЦ" асуджаныя, як спроба канчальнага зьнішчэньня нашай Царквы тым-жа б. Архіяпіскапам Мікалаям за пасярэдніцтвам стваранае ім схізмы.

Таму, каб захаваць БАПЦаркву ад розных варожых уплываў і дзеяньняў загадваю ўсяму Духавенству БАПЦ, усім Парафіяльным Радам і ўсім вернікам:

(1) Абсалютна ўстрымацца ад усякага ўдзелу ў падрыхтоўцы гэтага нелегальнага „Сабору", які склікаецца без майго ведама й згоды, б. Архіяпіскапам Мікалаям.

(2) Выясьніць вернікам, што скліканьне такога „Сабору", супярэчыць правілу 39 Статуту БАПЦ, ёсьць беспатрэбным і небясьпечным для Царквы ў часе пашырэньня бунту супроць легітымнай улады БАПЦ і збунтаваныя парафіі ня маюць права выбіраць і пасылаць дэлегатаў на нейкія фантастычныя Саборы. Належыць спадзявацца, што за год часу справы ўнармалізуюцца й адбудзецца Чарговы Звычайны Сабор БАПЦ ў 1984 годзе.

(3) Забараняецца Настаяцелям Парафіяў і Парафіяльным Радам склікаць сходы для выбару дэлегатаў на вышэй вымененыя нелегальны „Сабор".

(4) Гэтае распараджаньне належыць Настаяцелю прачытаць пасьля Багаслужбы й вывясіць на дошцы царкоўных абвестак для публічнага ведама.

*Ню Ёрк, 6-га лютага 1983*
*Мітрапаліт Андрэй*
*Першагерарх БАПЦарквы*



# 60-і Лецьце Аднаўленьня БАПЦ

Пішучы аб 60-ці лецьці Сабору Беларускае Праваслаўнае Мітраполіі, які адбыўся 23 ліпеня 1922 году ў Менску, неабходна прыгадаць і пачатак заіснаваньня нашай Царквы з кароткімі гістарычнымі данымі.

Агульна прынята думаць, што Хрысьціянства на нашых землях пачалося з 988 году пасьля хрышчэньня ў Кіяве пры Князю Ўладзіміру. Яно ня зусім так.

У кнізе „Историко-Статистическое описание Минской Епархіи" (Архимандрита Николая, Санктпетербург 1864) на ст.3 чытаем – „У адной кнізе бібліятэкі Ладанскага манастыра Ігуменскага павету зроблена наступная зацемка: 914 (964) г. вялікая княгіня Вольга, варочаючыся з Яцьвягаў і пераехаўшы Дзьвіну, адпачывала на гары, якая ёй вельмі спадабалася; заснавала на ёй каменны замак, ды назвала яго ад рэчкі Вітбы Віцебскам (Вітбескам), і два замкі дзеравянныя, дзьве цэрквы каменныя: Дабравешчаньня Дзевы Марыі – у ніжнім замку, а на верхнім на гары – Сьв. Мікалая. Пражыўшы два гады, выехала ў Кіеў".

Вялікая княгіня Вольга прыняла хрышчэньне ад Канстантынопальскага Патрыярха Паміеўкта ў 957 годзе.

З гістарычных крыніцаў ведама, што ў 990 годзе Полацкі князь Ізяслаў са сваёй маткай Рагнедай прынялі хрысьціянства, а ў 992 годзе быў устаноўлены епіскапскі пасад у Полацку з епіскапам Мінам. Ад таго часу хрысьціянства на нашых землях пачало шпарка пашырацца, бо ўжо ў 1005 годзе была заснаваная епіскопія ў Тураве з епіскапам Тамашом. Гэтая епіскопія ахоплівала гарады: Пінск, Наваградак, Горадзень, Берасьце, Ваўкавыск, Зьдзітаў, Неблесток, Дубовіца, Высочка, Случэск, Копысь, Ляхаў, Гарадок, і Сьмедзяне. У 1101 годзе заснавана епіскопію ў Смаленску.

У 1235 годзе, за часоў Вялікага Князя Міндоўга паўстае задзіночанае Вялікае Княства Літоўскае. Вялікія князі, рэзыдуючы ў сталіцы Літвы Наваградку, імкнуліся стварыць у межах свае дзяржавы самастойную праваслаўную Мітраполію. Кананічнае афармленьне яе адбылося ў 1291 годзе, калі Канстантынопальскі Патрыярх прызнаў грэка Феафіла мітрапалітам Наваградзкім. Другім мітрапалітам Вялікага Княства Літоўскага быў Раман, брат княгігі Марыі і швагра Вялікага Князя Літоўскага Альгерда. Наваградзкія мітрапаліты прымалі ўдзел у нарадах Канстантынопальскага Сыноду ў 1317, 1327 і 1329 гадох. Пасьля сьмерці Мітрапаліта

Рамана ў 1361 годзе, Канстантынопальскі Патрыярх прызначыў у 1376 годзе грэка Кіпрыяна мітрапалітам Літоўскім і Кіеўскім. І так на працягу 32-х гадовага панаваньня В. К. Альгерда праваслаўная рэлігія пасьпешна разьвівалася, а самастойная Царква давала найлепшыя ўмовы яе пашырэньня. Пасьля сьмерці Альгерда ягоны сын Ягайла стаўся В. К. Літоўскім, але ў 1385 годзе Ягайла ажаніўся з польскай каралевай Ядзьвігай і паводля Крэўскае ўмовы пераняў каралеўскі пасад ды пераехаў у Кракаў. Пасьля збройнага бунту супраць Ягайлы ў 1392 годзе быў узьведзены на пасад Вялікага Княства Літоўскага Вітаўт. Вялікі Князь Вітаўт жадаў мець у сваёй дзяржаве незалежную праваслаўную мітраполію, г.зн. каб свае епіскапы выбіралі самі Літоўскага мітрапаліта. Спачатку В. К. Вітаўт выслаў быў епіскапа Полацкага Хвядося да Канстантынопальскага Патрыярха з просьбай ягонага зацьверджаньня на мітрапаліта. Аднак гэтая просьба ня была задаволена. Тады В. К. Вітаўт у паразуменьні са сваімі епіскапамі склікае Сабор Епіскапаў, на якім быў абраны мітрапалітам Грыгор Цамблак. Гэтае гістарычнае здарэньне адбылося 15 лістапада 1415 году. З таго часу Мітрапаліта Праваслаўнае Царквы ў В. К. Літоўскім пастаўлялі свае епіскапы, аб чым толькі паведамлялася Канстантынопальскага Патрыярха, які звычайна пасылаў на ўрачыстасьць свайго прадстаўніка.

Жаніцьба Ягайлы з польскай каралевай Ядзьвігай, ды пераход яго і ўсяго роду ды магнатаў у рыма-каталіцкую веру, паслужыла пачаткам бясконцага закалоту на рэлігійнай і грамадзка-палітычнай ніве В. К. Літоўскага. Ужо ў 1387 годзе Ягайла заснаваў у Вільні каталіцкае біскупства й на парахвіі былі прызначаныя ксяндзы-езуіты з Польшчы, якія насаджалі апалячваньне, у выніку чаго й пачалося рэлігійнае змаганьне. У першую чаргу рабіўся націск на вышэйшую клясу, на праваслаўных князёў і багацейшую шляхту, адымаючы ад іх шляхецкія прывілеі і пазбаўляючы дзяржаўных пасадаў. Рабіўся таксама вялікі націск на праваслаўных мітрапалітаў і епіскапаў, каб падпарадкаваліся Рымскаму Папе. Гэтыя аднак мерапрыемствы яшчэ не давалі пажаданых вынікаў навярненьня праваслаўных на каталіцкую веру. Пагоршылася палажэньне праваслаўных пасьля палітычнае вуніі 1569 году, калі В. К. Літоўскае страціла ўкраінскія землі і злучылася з Польшчай у рэальнай вуніі. Пазьней, 21 студзеня 1596 году, была ўведзена й рэлігійная вунія паводля Канстытуцыі якое, вуніятам дазвалялася карыстацца царкоўна-славянскай мовай пры адпраўленьні Сьв. Літургіі і іншых таінстваў, якія не пярэчаць вучэньню рымакаталіцкае Царквы. Аднак-жа праваслаўныя В. К. Літоўскага, церпячы ад Палякаў несправядлівасьці й зьдзекі, моцна трымаліся свае веры. У гарадох пачалі арганізавацца Брацтвы, якія вялі зацяжнае змаганьне за сваю веру пад напорам польскіх каралёў і насланых езуітаў. Такое палажэньне трывала да часу расейскае акупацыі ў 1772 годзе. Карыстаючы з нагоды былыя праваслаўныя духаўнікі й вернікі масава пачалі пакідаць Вунію, ды варочацца да праваслаўнае веры.

Зноў-жа расейская акупацыйная ўлада сілаю накінула нам сваю Сынадальную царкоўную ўладу насуперак кананічным правілам, ды накідалася поўная русыфікацыя. Расейская мова была абавязкавай урадовай мовай у цывільнай і царкоўнай адміністрацыі, як таксама навуковай мовай у школах. Адміністрацыйныя й епіскапскія становішчы займалі наехаўшыя



расейцы. Новыя зьдзекі выклікалі новы супраціў, водгаласак якога бачым у трагічным лёсе арх. магілёўскага Варлаама, які ў 1812 г. вітаў Напалеона і яго ярмію, як вызвольнікаў ад маскоўскага іга, за што пасьля разгрому Французаў загінуў у выгнаньні. Наступіў век цемры і заняпаду, на працягу якога ашалелўшы расейскі шавінізм намогся зацерці ў сьведамасьці нашага народу усякі сьлед стара-літоўскай праваслаўнай традыцыі. Такі стан трываў да рэвалюцыі 1917 году.

Да першае Сусьветнае вайны 1914 году на тэрыторыі Беларусі існавала 6 епархіяў: Віленска-Літоўская, Гарадзенска-Берасьцейская, Менска-Тураўская, Магілеўска-Мсьціслаўская, Полацка-Віцебская й Смаленская. Паводле агульнага падліку на гэтай тэрыторыі існавала каля 4,000 цэркваў і 35 манастыроў.

У часе нямецка-расейскае вайны 1914–18 г.г. Заходняя Беларусь была занятая нямецкімі войскамі. У міжчасе, 25 Сакавіка 1918 году, у Менску была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка, якая праіснавала кароткі час. У 1920 годзе пачалася вайна паміж Расейскай Савецкай уладай і адроджанай Польшчай, якая адбылася на беларускай тэрыторыі. У выніку гэтага змаганьня й спыненьня дзеяньняў 18 сакавіка 1921 году Рыскім дагаворам паміж Масквою і Польшчай, Беларусь была падзелена ўстаноўленай граніцай на дзьве часткі. Заходняя частка Беларусі была далучана да Польскае дзяржавы, дзе апынуліся 3 праваслаўныя епархіі: Віленская, Гарадзенская і Палеская з сядзібай у Пінску.

У ўсходняй частцы Беларусі была ўстаноўлена савецка-камуністычная ўлада, якая з першых дзён павяла адкрытае змаганьне супраць рэлігіі і духавенства, асабліва праваслаўнай веры. Змаганьне вялося ўсімі даступнымі спосабамі: зачыненьнем манастыроў і цэркваў ды ператварэньнем іх у склады, тэатры, клюбы; высьмейваньнем і абражаньнем веры ў Бога ды царкоўных Багаслужбаў; ладжаньнем антырэлігійных лекцыяў і дакладаў; высьмейваньнем праваслаўнага духавенства; зьневажаньнем сьвятых мошчаў, іконаў і Богаслужэбных рэчаў; нішчэньнем сьвяшчэнных кнігаў і багаслоўскае літаратуры; зачыненьнем усіх духоўных школаў; арыштамі, растрэламі, ссылкаю ў канцэнтрацыйныя лягеры праваслаўных епіскапаў, сьвятароў і веруючых міранаў. За пэрыяд ад 1918 году да 2-ое Сусьветнае вайны толькі на тэрыторыі БССР загінула 8 епіскапаў і каля 1,400 сьвятароў.

У 1919 годзе быў прызначаны Патрыярхам Ціханам на вікарнага епіскапа Менскае Архіепіскопіі ў Слуцку Епіскап Мэлхісэдэк. Відаць Епіскап Мэлхісэдэк, які быў на катэдры ў Астрахані, папрасіўся ў Патрыярха на гэтае прызначэньне, каб працаваць сярод свайго народу. Епіскап Мэлхісэдэк (у сьвецкім жыцьці Паеўскі) нарадзіўся ў сяле Шчытніках, Берасьцейскага павету, недалёка ад места Кобрыня, дзе ягоны бацька, а.Лявон, быў сьвятаром. Вучыўся Мэлхісэдэк у Віленскай духоўнай сэмінарыі, а пазьней у Петраградзе. У 1910 годзе прыняў манаскі пастрыг і быў прызначаны ігуменам Бялыніцкага манастыра. У 1914–1918 г.г. будучы епіскапам, быў прызначаны на катэдру Таўрычаскага епіскапа, пазьней меў тытул Астраханскага. Па выезьдзе Менскага Архіепіскапа Юрага Ярашэвіча ў Варшаву, Епіскап Мэлхісэдэк заняў пасаду епархіяльнага епіскапа Менскай епархіі з наданьнем яму тытулу архіепіскапа.

У той час палажэньне на Беларусі ня было ўсталяванае. 25-га Сакавіка

1918 г. была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка, як незалежная дзяржава, але існаваньне гэтае ўлады было кароткае, бо савецкая камуністычная ўлада незадоўга акупавала ўсю тэрыторыю Беларусі, устанаўляючы свае парадкі з дзікім супраць-рэлігійным змаганьнем.

У Ўсходняй Беларусі, з акроенай тэрыторыяй, была створана Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, у скароце БССР. Тут супраць-рэлігійнае змаганьне савецка-камуністычнае ўлады працягвалася з неаслабляючай сілаю. Рэлігія была абвешчана „опіум для народу", а гэтым самым шкоднай для савецка-камуністычнае дзяржаўнае сыстэмы. У такіх цяжкіх умовах Архіепіскап Мэлхісэдэк склікаў на 23 ліпеня 1922 году Сабор Беларускае Праваслаўнае Царквы, на якім была агалошана незалежная Мітраполія з Мітрапалітам Мэлхісэдэкам на чале. На тым Саборы былі хіратанізаваныя новыя епіскапы: Мікалай (Шэмеціла) на епіскапа Слуцкага, Ян (Пашын) на епіскапа Мазырскага й Філарэт (Раменскі) на епіскапа Бабруйскага. Такім чынам пасьля 150-ці гадоў расейскага панаваньня была аднаўлена зноў незалежная Беларуская Праваслаўная Мітраполія, якая ізноў-жа праіснавала вельмі кароткі час. Дзесь у палавіне 1925 году Мітрапаліт Мэлхісэдэк быў выкліканы ў Маскву, дзе быў арыштаваны й пасаджаны ў турму, а пазьней адпраўлены на ссылку ў Краснаярск на Сібір. У 1927 годзе ён быў ізноў выкліканы ў Маскву, дзе раптоўна памёр. Такі-ж лёс падзялілі і хіратанізаваныя ім епіскапы: Епіскап Ян памёр у канцэнтрацыйным лягеры ў 1927 годзе, Епіскап Мікалай памёр у турме ў 1931 годзе і Епіскап Філарэт таксама памёр у турме ў 1939 годзе. У 1939 годзе ў БССР (у яе старых межах) усе праваслаўныя цэрквы былі зьліквідаваныя.

Як ужо было зазначана вышэй, пасьля падзелу Беларусі Рыскім трактатам у межах Польскае дзяржавы апынуліся тры праваслаўныя епархіі з агульнай колькасьцяй каля 600 парахвіяў, ня ўлічваючы таго, што каля 200 царкоўных будынкаў былі адабраныя польскай уладай для рыма-каталіцкае Царквы.

На далучаных да Польскае дзяржавы тэрыторыях Беларусі й Украіны з праваслаўным насельніцтвам у 1922 годзе была ўстаноўлена Праваслаўная Мітраполія, ачоленая Мітрапалітам Дыянісіям (Валедзінскім). У канцы 1924 году, на захады Епіскапату гэтае Праваслаўнае Мітраполіі і польскага ўраду, Канстантынопальскі Патрыярх сваім „Томасам" з 13 лістапада 1924 году прызнаў Ёй Аўтакефалію і Яна пачала называцца – Аўтакефальная Праваслаўная Царква ў Польшчы. У сваім „Томасе" Канстантынопальскі Патрыярх Грыгор VII пісаў: „Першае адлучэньне Кіеўскай Мітраполіі, ды Мітраполіяў Літвы й Польшчы а таксама прылучэньне іх да Сьв. Маскоўскай Царквы сталася не паводля традыцыйных кананічных правілаў". З гэтага відаць (1) што назоў *Аўтакефалія* быў дадзены на аснове гістарычнага мінулага й на гістарычныя тэрыторыі і (2) што *Аўтакефалія* датычыць земляў Беларускіх, паколькі землі Польшчы былі каталіцкімі, ды (3) што далучэньне Праваслаўнае Царквы Беларусі-Літвы да Маскоўшчыны ў 1772–1775 г.г. адбылося нязгодна з кананічнымі правіламі.

Гэта самае цьверджаньне было паўторана ў „Пасланьні Патрыярха Атэнагора Мітрапаліту Піману Крутыцкаму" (цяперашні Маскоўскі Патрыярх) з дня 24 чэрвеня 1970 году. Расейскай Праваслаўнай Царкве захацела ся ігнараваць стварэньне Аўтакефальнай Праваслаўнай Цпрквы ў Польшчы



пакойным Усяленскім Патрыярхам Грыгорам VII Сынадальным Патрыяршым Томасам з 13 лістападу 1924 году, хоць гэты акт Усяленскага Прастолу ў адносінах да Польскае Царквы быў ахвотна й безагаворна прызнаны іншымі Праваслаўнымі Цэрквамі ў духу любові й братэрскага еднаньня.

Стан падзеленае Беларусі праіснаваў да верасьня 1939 году, пачатку 2-ое Сусьветнае Вайны.

Менскі Сабор Беларускае Праваслаўнае Царквы, які адбыўся 60 гадоў таму назад, мае для нашага народу вялікае гістарычнае значаньне, як пачатак адраджэньня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Назоў Аўтакефаліі, як было зазначана, быў наданы Ўсяленскім Патрыяршым Прастолам нашай Царкве на беларускай тэрыторыі, а таму гэты поўны назоў Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ўжываецца і ў нашай Царкве ў Вольным Сьвеце.

Цяпер на Бацькаўшчыне, у БССР, існуе толькі адна епархія накінутага Беларусі Маскоўскага Патрыярхату і, як падаў Мітрапаліт Менскі Філарэт у Лондане 12.XI.1980 г., у Беларусі сяньня налічваецца ўсяго 370 парафіяў, якія абслугоўваюць 383 сьвятары. У сталіцы Менску, якая налічвае цяпер больш мільёна насельніцтва, існуюць толькі дзьве невялікія цэрквы.

*– Протапр. Васіль Кендыш*

# Роля Міранаў у Царкве

У Сымбалі Веры Царква завецца „Саборнай". Гэтае слова паходзіць ад грэцкага „кафолікос", у сэнсе паняцьця „ўсяленскасьці". Слова „кафолікос" – „саборная", у запраўднасьці мае глыбейшае значаньне: яно выражае сабою тое паняцьце існаваньня запраўднай Царквы Хрыстовай, якое прыводзіць у сваіх пасланьнях Апостал Павал, вучачы аб Царкве, як Целе Хрыстовым, Галава якога – Сам Хрыстос, а мы ўсе, веручыя – часткі. „Бо ніхто ня можа пакласьці другога фундамэнту, апрача закладзенага, які ёсьць Ісус Хрыстос" (І Кар.3,ІІ). „Паўната напаўняючага ўсё ўва ўсім" (Эфэс.І,22-23). Такім чынам, „кафалічаскі" значыць усёабымаючым, зьбіраючым усё ў адно, творачы спалучэньне ўсіх у Хрысьце – задзіночаньне, зразумела, ня толькі вонкавае, але й нутраное, як у жывым арганізьме злучаны між сабою ўсе часткі, складаючыя адно цела. Важнейшай асаблівасьцю гэтага задзіночаньня зьяўляецца тое, што кажная частка знаходзіцца ў неад'емным спалучэньні з усім цэлым.

У запраўднай Царкве ня можа быць ніякай і нічые „дыктатуры", як ня можа быць ні алігархіі, ні дэмакрацыі, ні наагул якой-бы сабе ня было сьвецкае формы кіраўніцтва і чыста сьвецкага падыходу да ўлады. Пастырска-герархічная ўлада ёсьць не ўладарства, але служэньне. Вышэйшая ўлада, як заканадаўчая, так і выканаўчая й судовая, згодна з канонамі, належыць толькі Сабору Епіскапаў Царквы.

У наш час лозунгаў „дэмакратычнасьці", характэрнае для дзяржаўнага быцьця, гэтае слова пераносіцца вельмі часта, па сьвецкаму мудруючы аб Царкве, у жыцьцё парахвіяў. Слова „дэмакратыя" азначае „уладу на-

роду". Наша Праваслаўная Царква прызначае царкоўнаму народу пачэснае й дастаткова адказнае месца ў жыцьці парахвіі, але падставы царкоўнага дабрачэсьця й дабрачыннасьці хістаюцца, калі дагматычныя й кананічныя падставы Статуту Царквы пачынаюць трактавацца з пункту гледжаньня „дэмакратычнасьці". Актыўны ўдзел вернікаў у жыцьці Царквы выяўляецца ў тым, чам кажны з нас можа служыць Ей, а гэтае служэньне ажыцьцяўляецца ў актыўным паслушэнстве, у аднадушнасьці з духоўным кіраўніцтвам у агульнай працы для дабра Царквы, а тады зразумела, выключаюцца ўсе праявы самаволі і „дэмакратычнага гаспадараньня", бо гэты спосаб кіраваньня не характэрны царкоўнаму жыцьцю, вядучаму нас да спасеньня ў Хрысьце.

Царква ёсьць своеасаблівай арганізацыяй, у якой галоўны элемэнт – духоўны. Гэтым яна розьніцца ад усіх іншых арганізацыяў, грамадзкіх, навуковых, палітычных, дзяржаўных, і т.п.. Паколькі ў Царкве галоўную ролю адыгрывае яе рэлігійнае прызначэньне, царкоўнай арганізацыяй у цэласьці кіруюць епіскапы, як апостальскія пераемнікі. На мясцох-жа парахвіямі кіруюць духоўнікі, асьвячаныя і прызначаныя на гэта епіскапамі.

Роля вернікаў у Царкве выключна важная. Папершае, сама Царква існуе для вернікаў: галоўная мэта Царквы – памагчы людзям зблізіцца да Бога. Гэта сваё вялікае заданьне дабрачыннасьці яна асягае шляхам устаноўленым Айцамі Царквы цягам мінулых сталецьцяў. Шлях гэты, гэта перш за ўсё наша царкоўная традыцыя і царкоўная законнасьць, на якую складаюцца Апостальскія Правілы, каноны Ўсяленскіх і Памесных Сабораў, ды Статут Царквы. Такім чынам як сама арганізацыя Царквы, так і ўсё царкоўнае жыцьцё здаўна ўрэгуляваныя, дэтальна ўнармаваныя. Гэта асабліва адносіцца да Праваслаўнай Царквы, якая якраз тым і славіцца і завецца Права-слаўнай (з грэцкага Артадаксальнай), што цьвёрда трымаецца старых правілаў і парадкаў.

У царкоўнай арганізацыі, як сказана, роля духоўнага элемэнту ёсьць кіруючая, пастырская, у той час як роля вернікаў ёсьць больш пасыўнага характару, роля паствы, і гэта лягічна: духоўнікі служаць вернікам парадай і помаччу ў справах веры, у галіне свае спэцыялізацыі. Са свайго боку вернікі памагаюць духоўнікам у ўтрыманьні і ўмацаваньні царкоўнай арганізацыі. І так яно ў нас заўсёды вялося – у духу ўзаемнага даверу і пашаны, ды Хрыстовай любові. Нажаль з 1980 г. ў нашы справы ўмяшалася сіла варожая, вонкавая, і ўсё нам папсавала.

Царква абаснаваная Хрыстом дзеля людзкога дабра. Вернік належыць да Царквы і наведвае Багаслужбы, бо верыць у Бога ды жадае паглыбленьня і ўзмацненьня свае веры. Больш таго, для нас Беларусаў закінутых лёсам на чужыну далёка ад Бацькаўшчыны, Царква мае і дадатковую важнасьць – гэта наша нацыянальнае Прыстанішча, наш прытулак, куды мы сьпяшым у цяжкі час, дзе гуртуемся, каб нам не загінуць у чужым моры. Такім чынам, значэньне Царквы ў нашым жыцьці, як прыватным так і грамадзкім, выключна вялікае. Гэта ворагу дужа добра ведама і ён пастанавіў пазбавіць нас гэтага Прыстанішча раз і на заўсёды. Прытым ён настае, каб Царкву сваю Беларусы разбурылі сваімі ўласнымі рукамі, каб увесь сьвет гэта бачыў, ды каб пазьней бясконца вінавацілі ў гэтым адзін другога.



Нажаль, гэты плян нельга лічыць фантазіяй. У сучаснай сытуацыі трэба бачыць яго рэальным, довадам чаго тыя шматлікія мала-верныя нашыя, якія так паслухмяна выконваюць ўсё, што ім варожая сіла накідае. У гэтым наша няшчасьце, адсюль уся тая бяда ў Царкве, усе бязглуздыя бунты, што патрэсьлі Ею за апошнія гады. Але хай ня думае вораг, што ён усіх нас застрашыў – адно маладушныя перад ім пакарыліся. Царква-ж трымаецца і ўтрымаецца. Аснавальнік Яе, Госпад наш Ісус Хрыстос, недарма заявіў, што „вароты пякельныя не адоляць Яе" (Мацьв.16–18). Царква ёсьць Хрыстовая, а мы Яго дзеці маем шчасьце бараніць Яе: за гэта Госпад наш Ісус Хрыстос бароніць нас ад усіх сіл сатанінскіх, што спрысягліся супроць нас. У гэтым зарука нам сьветлае будучыні.

*– Кансысторыя БАПЦ*

# Разбуральнік Царквы

Як кажнаму з нас ужо добра ведама, наша Сьвятая Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква апынулася ў стане цажкога крызысу, які яўна пагражае Яе далейшаму існаваньню. Усе мы цяжка перажываем гэту бяду, бо Царква для нас тое найдаражэйшае, што мы, страціўшыя Бацькаўшчыну, маем тут на чужыне. Вораг гэта добра ведае і таму так налягае на Яе зьнішчэньне.

У гэты цяжкі мамэнт варта сабе прыгадаць, што ў 1967 г. Царква наша тут у Амэрыцы перажыла першы свой востры крызыс, калі падасланы ворагам сьвятар узбурыў быў частку Парахвіі ў Ню Ёрку супроць сьв. пам. Архіепіскапа Васіля – справа апынулася ў судзе йзбунтаваныя мусілі адыйсьці. Праз трынаццаць гадоў справа паўтарылася: ізноў сьвятар прыняты намі з іншай юрысдыкцыі пайшоў на адкрыты бунт супроць свайго Епіскапа, і Галавы Царквы, і пацягнуў за сабою частку парахвіянаў. Але цяпер справа на гэтым ня скончылася. Без дай-прычыны ўмяшаўся і падтрымаў бунт б.Архіепіскап Мікалай з Канады, які, калі да яго зьвярнуліся збунтаваныя, замест паклікаць іх да парадку і належна правучыць, усхваліў бунт і гэтым стаў на яго чале...

Гэтым і быў паложаны пачатак разладу і закалоту ў БАПЦ, за які поўную адказнасьць нясе ня хто іншы, як толькі б.Арх.Мікалай: каб не ягоная злачынная дзейнасьць за апошнія два з палавінай гады, у нас ня было-б ніякага закалоту. За свае жудка безадказныя ўчынкі, за шматразовае зламаньне епіскапскай прысягі, за безагляднае ламаньне Апостальскіх Правілаў і канонаў Усяленскае Царквы, ды Статуту БАПЦ, былы Архіепіскап Мікалай пастановай Сабору Епіскапаў БАПЦ ад 8-га жнівеня, 1982 г., пазбаўлены чыну і епіскапскага сану, ды адлучаны ад Царквы (пастанова ўвайшла ў сілу з днём 5-га лютага, 1983, па той прычыне, што абвінавачаваму колькі разоў была дадзена нагода зьявіцца асабіста на сэсіі Сабору Епіскапаў, каб бараніцца, апраўдацца, ці пакаяцца ў цяжкіх сваіх грахах – нажаль ён з гэных магчымасьцяў не скарыстаў).

Сяньня чалавек, які падтрымаў злачынствы бунтароў і ўзяў іх пад сваю „апеку", стварыўшы ў нас гэтым хранічны стан беззаконнасьці ды

змушаючы Ўладыку Мітрапаліта і Кансысторыю шукаць справядлівасьці ў судох – сяньня ён, яшчэ раз махнуўшы рукой на Статут Царквы, які не дае яму на гэта ніякага права, самавольна „бярэ на сябе абавязак склікaньня Надзвычайнага Сабору БАПЦ" супроць волі Галавы Царквы, Кансысторыі і Рады БАПЦ, якім гэта права зарэзэрвавана Статутам. Гэта новы акт бунту супроць легітымных Уладаў БАПЦ, якім гэты нягодны чалавек імкнецца нанесьці канчатковы ўдар, намяраючыся злажыць лёс Царквы ў рукі бунтаўшчыкоў.

Чалавеку гэтаму ўсё яшчэ здаецца, што ён зможа ўсіх ашукаць, Бога і людзей. Яно выяўна відаць з таго пашквіля-паведамленьня, разасланага ім пра склікaньне таго „сабору" і перапоўненага недастойнай хрысьціяніна хлусьнёй і крывадушшам. Спынімся тут адно на галоўных пунктах таго „твору". З самага пачатку ўспамінае ён „трагічнае палажэньне ў Царкве" – падпаліўшы будыніну нягоднік зьлітаваўся над яе лёсам... Далей М. Мацукевіч паведамляе, што склікаць той „сабор" застаўляюць яго „Статут БАПЦ і каноны Сьвятой Праваслаўнай Царквы..." але не падае, на якія пайменна каноны і параграфы Статуту ён тут паклікаецца і нам ведамая прычына – бо такіх зусім няма... Адна лухта і толькі.

Далей Мацукевіч наракае, што вось „ужо амаль тры гады, як Сьвятая БАПЦ церпіць беспарадкі, ганьбу ў сьвецкіх судах..." – а хто-ж, як ня ён сам папхнуў людзей да бунту і бяспраўных чынаў супроць Галавы Царквы без найменшай на гэта прычыны? Каб вярнуць лад і супакой Царква была вымушаная адклікацца да дзяржаўных судоў і гэтым ня быў аніяк парушаны ні прыведзены Мацукевічам пар.4, ані пар.56 Статуту, ані каноны – 9-ты Першага Ўсяленскага Сабору, 115 Карфагенскага Паместнага, ані навет 14-ты таго-ж Паместнага Сабору, які таксама зусім не датычыць бунту супроць царкоўнай улады. Усё гэта спробы гвалціцеля царкоўнай законнасьці ўскінуць сваю віну на іншых. Бо дзе ёсьць такі Царкоўны Суд, які-б змог уціхамірыць адкрыты бунт супроць Правячага Епіскапа, ці супроць Галавы Царквы? Такога суду няма і быць ня можа! Вярнуць парадак, супакой і падтрымаць дзеяньне закону ў парахвіях, дзе паношыцца жульніцтва, можа толькі сьвецкі суд, прысуд якога апіраецца на сілу дзяржаўнай улады. Падобныя як у нас справы здараюцца ў розных Цэрквах, толькі ніхто і нідзе не дамагаўся яшчэ, каб вырашалі іх царкоўныя суды, як гэтага патрабуюць нашыя крывадушнікі. Таму гаворка Мацукевіча пра нейкія яго „ды іншых" захады „забраць справу са сьвецкага суда і перадаць у царкоўны суд" адно пустаслоўе і ілжа, мэта якога далей узбураць людзей.

Далей М. Мацукевіч апавяшчае, што „Мітрапаліт Андрэй поўнасьцю страціў кантроль над Царквою"... Пытаньне: які-ж кантроль Уладыка Мітрапаліт мае над Царквою? Ясна адно духоўны і толькі ў рамках акрэсьленых царкоўнай законнасьцяй, г.зн. у адносінах да тых толькі, хто дабраахвотна падпарадкоўваецца гэтай законнасьці. У гэтым уся ідэя царкоўнай арганізацыі: той, хто пакінуў прынцып дабравольнага падпарадкаваньня царкоўнай уладзе лічыцца пакінуўшым Царкву адшчэпнікам, дысыдэнтам. Падобна, калі збунтуецца ўся парахвія, яна лічыцца адыйшоўшай ад Царквы з усімі вынікаючымі з гэтага праўнымі вывадамі. Затым, як доўга Царква базуецца на кананічных прынцыпах, так доўга Першагерарх мае запэўнены над Ёю кантроль. Ён ня мае кантролю толькі



над бунтаўшчыкамі і нягоднікамі, якія адшчапіліся ад Царквы і з імі ў нас уся бяда. Гэта яны пад бяспраўнай „апекай" М. Мацукевіча завялі ў некаторых парахвіях рэжым беззаконнасьці. Каб неяк уціхамірыць іх і іхняга завадатая вось і прыходзіцца вазіцца па судох, рабіць вялікія затраты. Уладыка як меў, так і далей мае прадпісаны яму „кантроль" над усімі тымі, хто да яго горнецца за духоўнай апекай, хто прызнае яго за Галаву нашай Царквы, і гэты кантроль яму дадзены Статутам пажыцьцёва.

У сваім праступным пашквілі Мацукевіч піша, што яму „справу скамплікавала нялягальная хіратонія а. Я. Бруцкага, якая была грубым нарушэньнем Статуту БАПЦ і канонаў Праваслаўнай Царквы..." З усёй ілжы, якой ён тут ня скупіцца, гэта найбольш ганебная і паніжаючая яго ўвачччу ўсякага асьвечанага чалавека. Першае, ён ізноў не падае ні тых параграфаў Статуту, ні тых канонаў, што быццам былі „груба" нарушаныя і, ізноў-жа, па тэй самай прычыне – бо такіх няма! Мала таго, такія правілы, каб Беларуса хіратанізавалі толькі Беларусы, у Праваслаўнай Царкве зусім немагчымыя... Нашымі першымі герархамі былі Грэкі і Баўгары – яны хіратанізавалі нам першых беларускіх герархаў у XI–XII ст.. Пасьля Берасьцейскай Вуніі, калі прышлося было хавацца, былі ў нас і тайныя хіратоніі, ізноў-жа пры дапамозе Грэкаў і Сырыйцаў. А сьв.пам.Уладыку Васіля хіратанізавалі нам Украінцы. Мы глыбока ўдзячныя ўсім тым, хто памагаў і памагае сяньня нашай Царкве. Наагул-жа хіратонія робіцца для Царквы і Яе вернікаў, але адабрэньня вернікаў яна не патрабуе. Да яе ставіцца адно толькі патрабаваньне – каб яна была кананічнай. Такой хіратонія Ўладыкі Ізяслава была без найменшых засьцярогаў. Сяньня ён ёсьць паўнапраўным епіскапам БАПЦ. Нападкі збунтаваных на яго ў нічым гэтага факту зьмяніць ня могуць, яны толькі яго ўскосна пацьвярджаюць... і М.Мацукевічу ня ўдасца ачарніць чалавека, які адмовіўся падтрымаць яго авантуру.

Вось гэты мізэра-нягоднік, які не разьбіраецца ў самых элемэнтарных справах Царквы, бярэцца (чытаем далей у паведамленьні ягоным) „вярнуць Царкву на законны шлях...", „вярнуць у Яе жыцьцё гармонію...", „спыніць працэс Яе ўпадку...", а навет „забясьпечыць Царкве лепшае будучае..." – усё гэта запраўды асягальнае, калі-б ён толькі спыніў сваю дзейнасьць. Нажаль, як відаць, ён ня ў сілах здабыцца на такі вялікадушны акт дабрадзейства для Царквы – ён мусіць ісьці далей шляхам Яе разбурэньня, далейшага гвалчаньня царкоўнай законнасьці: ён самавольна склікае „Надзвычайны Сабор БАПЦ", а паколькі Статут вымагае на гэта згоды Мітрапаліта, распраўляецца з ім дужа проста, абвяшчаючы сьвету, што „Першы Герарх БАПЦ ня ёсьць у стане выконваць сваіх абавязкаў" і годзе, а паколькі перад кажным Саборам статутова прадбачыцца акцыя Рады БАПЦ і Кансысторыі, дае і ім чосу, што быццам „перасталі выконваць свае статутовыя абавязкі..." і, доўга ня думаючы, на іх месца пакліkae нейкую „Перадсаборную Камісію" зусім невядомую Статуту Царквы. Ці гэта піша камэдыянт, ці запраўдны варыят, мала важна. Усякаму ясна, што ў яго хворым уяўленьні БАПЦ ужо ня існуе: яму здаецца, што ён ужо расправіўся і з Мітрапалітам, і з Кансысторыяй, і з Радай БАПЦ, а навет із Саборам Епіскапаў...Так „расчысьціўшы" сабе дарогу гэты праступнік яўна намякае на мэту, да якой імкнецца – стварэньне зусім новай, „сваей" царквы. А гэта, калі-б удалося яму зрэалізаваць, азначала-б ня-менш

ня-больш як разлом і непазьбежны занядад нашай Сьвятой Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы на чужыне!

Хай нікому не здаецца, што змаганьне ідзе адно супроць Мацукевічаў, Яноўскіх, ды іншай дробязі. Не. Перад намі вораг магутны, які авалодаў душою і розумам многіх людцаў нашых, што сталіся ворагамі самым-сабе і ўсяму роднаму, датла затрацілі сумленьне. Але на шчасьце ёсьць яшчэ сярод нас людзі справядлівыя, людзі праўдзівай веры, што не паддаюцца крыкам і пагрозам апантаных. Да іх наш кліч: у Імя Хрыста Спаса баранеце непарушнасьці нашай дарагой Царквы! Спыняйце жулікаў у поў-дарогі, разьясьняйце слабым, што –

(1) Усякі Сабор БАПЦ склікаецца толькі Кансысторыяй за згодай і за ведамам Галавы Царквы (Статут, п.39). Ніхто іншы гэтага рабіць няможа, а калі нехта скліча, тады гэта ня будзе Сабор БАПЦ.

(2) Звычайны Сабор БАПЦ склікаецца раз на 12 гадоў. Апошні адбыўся ў 1972 г., наступны выпадае на 1984 г., г.зн. за год часу. Спадзяемся, што да пары яго скліканьня справы ў Амэрыканскай Епархіі выясьняцца і ўнармуюцца – важны аргумэнт супроць перадчаснага скліканьня Сабору БАПЦ.

(3) У Саборы могуць прымаць удзел толькі незабароненыя Ўладамі БАПЦ епіскапы і сьвятары (пар.37). На сяньня ў нас ёсьць епіскап пазбаўлены сану і сьвятары расстрыжаныя ды пад судом. Дзьве парахвіі ёсьць у стане фактычнае схізмы-адшчапленьня і, як такія, ня могуць поўнапраўна выбіраць ані пасылаць дэлегатаў на Сабор. Яшчэ адзін аргумэнт, каб пачакаць, пакуль суадносіны гэтыя устабілізуюцца.

(4) „Надзвычайны Сабор" скліканы супроць волі Галавы Царквы і без яго прысутнасьці, ды ў адсутнасьці Герархаў БАПЦ наагул, ёсьць нелегальны і, як такі, *нічога* ня можа вырашыць: гэта адзін больш разбуральніцкі акт, мэта якога неяк замацаваць і ахформіць схізму, што ўжо сямтам у нас прынялася, і гэтым даць М.Мацукевічу базу на далейшае вархольства.

Усім нам дастаткова ясна ўжо, што гэтым „саборам" вораг імкнецца убіць клін у жывое цела нашай дарагой Царквы. Трэба нам стаць усім сьцяною супроць гэтых праступных замыслаў і супроць усіх тых, хто іх пакорна выконвае – сярод іх „пакорны" разбуральнік Міхаіл Мацукевіч грае галоўную ролю. Сьвятым абавязкам кажнага запраўднага верніка Беларуса ёсьць аддана бараніць найвялікшы скарб, які давялося Народу нашаму стварыць ад часу ўтраты ім свабоды – нашую Сьвятую Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву. Памятайма, што баронячы Яе, мы баронім сябе ад загубы. З верай у сэрцы і з Імем Хрыста-Абаронцы нашага на вуснах пераможам!

– *Прававерпік*





# Праваслаўная Царква

Царква ёсьць устаноўленая грамада людзей, зьяднаных між сабою Праваслаўнаю вераю і тайнамі, законам Божым і законнай герархіяй ды супольнай традыцыяй.

З духовага боку, Царква, згодна з навукаю ап. Паўла, зьяўляецца Целам Хрыстовым: Галава Царквы – Хрыстос, а веруючыя – яе часткі (I Кар.12,27). У склад Царквы, як Цела Хрыстовага, увахо́дзяць ня толькі жывыя хрысьціяне, але й памёршыя ў Хрысьце.

З самога акрасьленьня Царквы вынікаюць і яе асаблівасьці:

(а) Царква Хрыстовая адзіная, як адзіночнае Цела Галавы – Госпада Ісуса Хрыста.

(б) Царква Хрыстовая Сьвятая і праўдзівая, бо яна кіруецца Сьвятым Духам і зьмяшчае ў сабе ўсю паўнату праўды і дабрадатнасьці: „Царква Бога Жывога стоўп і ўмацаваньне праўды" (I Цім.3,15).

(в) Царква Хрыстовая ёсьць вечная, як вечны Сам яе Боскі Закладчык і Галава, сказаўшы ў сьв. Евангельлі „Збудую Царкву Маю, і вароты пякельныя не перамогуць Яе".

Мэтай стварэньня Царквы на зямлі, зьяўляецца судзеяньне збаўленьню людзей. Гэта стане больш зразумелым, калі ўдумаемся ў тое, што Царква ня ёсьць толькі вонкавая арганізацыя, але й новае жыцьцё, новы духовы пачатак у чалавеку: яно нябачна ўздзейвае на нашую душу й стварае ў ёй правільнае адношаньне да Бога, да людзей, да ўсяго сьвету. Гэта тое, аб чым гаворыцца ў евангельскай прыповесьці аб рашчыне ськісьліўшай усё цеста (Мац.13,33). Сяродкам да перароджаньня душ зьяўляецца Дабрадаць Божая, якая перахоўваецца ў Царкве й асьвячае, ды ператтварае наша духовае жыцьцё. Дабрадатнасьць Божая перадаецца веруючым перадусім праз таінствы Царквы. Значэньне Царквы ў жыцьці хрысьціяніна вельмі вялікае. Веруючы чалавек ня толькі чэрпае ў ёй новыя духовыя сілы, але й сама Царква сваімі таінствамі суправаджае ўсё жыцьцё праваслаўнага чалавека ад нараджэньня да самае магілы: Яна багаслаўляе нараджаньне дзіцятка, хрысьціць яго, навучае яго праўдзівае веры, падтрымоўвае ягоную веру малітвамі, Багаслужбамі й таінствамі, навучае яго праўдзівага хрысьціянскага жыцьця, ды павучае яго перад сьмерцю. Паводля слоў сьв. Яна Залатавуснага, Царква ёсьць як бы карабель, у якім веруючыя ратуюцца ад бураў жыцьцёвага мора.

З такога разуменьня Царквы выцякаюць і абавязкі праваслаўнага хрысьціяніна ў адносінах да Царквы. Найгалаўнейшыя з іх заключаюцца ў наступным:

(1) Прысутнасьць на царкоўных Багаслужбах, асабліва ў нядзелі й сьвяточныя дні.

(2) Выпаўняць пасты ўстаноўленыя Царквою (ня менш аднаго разу ў годзе), г.зн. падрыхтавацца пастом і малітваю да прыступленьня з пакаяньнем да сьв. прычасьця.

(3) Належаньне да аднае парахвіі і ўдзел у ёй малітвенны, матарыяльны і працоўны.

(4) Вернасьць уставам і звычаям Праваслаўнае Царквы, абарона Яе ад ворагаў і паўстрыманьне ад усяго таго, што можа кінуць нейкі цень

на Праваслаўе.

## ДУХАВЕНСТВА Й ЦАРКОЎНАЕ КІРАЎНІЦТВА

Герархія Праваслаўнае Царквы дзеліцца на тры ступені: дыяканы, ярэі й епіскапы. Епіскапы зьяўляюцца пераемнікамі апосталаў і маюць права, ня толькі выконваць таінствы, але і пасьвячаць ярэяў і дыяканаў. Ярэі могуць выконваць таінствы, але ня могуць пасьвячаць (рукапалагаць). Дыяканы памагаюць сьвячэньніку пры выконваньні таінстваў, але іх ня выконваюць. Пры гэтых трох ступенях сьвячэнства існуюць яшчэ асобныя назовы сьвяченнаслужыцеляў, залежна ад іхняга старшынства або ад займаных адміністрацыйных становішчаў.

| *СТУПЕНЬ* | *БЕЛАЕ ДУХАВЕНСТВА* | *МАНАСКАЕ ДУХАВЕНСТВА* |
|---|---|---|
| Дыякан | Дыякан<br>Протадыякан | Ірадыякан<br>Архідыякан |
| *Сьвячэньнік* | *Ярэй*<br>*Протаярэй*<br>*Протапрасьвіцер* | *Ераманах*<br>*Ігумен*<br>*Архімандрыт* |
| Епіскапы | | Епіскап<br>Архіепіскап<br>Мітрапаліт<br>Патрыярх |

Першымі епіскапамі Ўсяленскае Царквы былі сьвятыя апосталы, атрымаўшыя сваю ўладу безпасярэдне ад Госпада Ісуса Хрыста. Пазьней апосталы рукапалагалі сваіх вучняў на епіскапаў для тых краінаў, дзе яны прапаведвалі. Пасьля гэтыя епіскапы рукапалагалі сваіх пераемнікаў прасьвіцераў і так робіцца й да цяперашняга часу. Беларуская Праваслаўная Царква, атрымаўшая свой пачатак ад Грэцкае Царквы, мела першых епіскапаў ад Канстантынопальскага Патрыярха. На пачатку Беларуская (Літоўская) мітраполія з сядзібай у Навагрудку была залежная ад гэтага Патрыярхату, які зацьвярджаў мітрапалітаў. Пазьней, ад 1415 году, калі Беларуская (Літоўская) Праваслаўная Царква атрымала сваю незалежнасьць, яе епіскапы пачалі самі выбіраць мітрапаліта.

Уся ўлада ў Царкве належыць да епіскапаў, і ні сьвячэньнікі ні міране ня маюць права нічога рабіць без дазволу свайго епіскапа. Але кажны паасобны епіскап мае ўладу толькі ў сваёй епархіі (акрузе).

У кажнай мітраполіі, або незалежнай Памеснай Царкве, кіруе Мітрапаліт або Патрыярх, але важнейшыя справы Царквы развязваюцца толькі Саборам Епіскапаў. Справы, якія датычаць усяе Ўсяленскае Праваслаўнае Царквы, вырашаюцца на Ўсяленскіх Саборах, г.зн. на саборы епіскапаў усіх Памесных Цэркваў. Усе каноны (правілы) Праваслаўнае Царквы, паводля якіх яна жыве да гэтага часу, былі прыняты на Ўсяленскіх і Памесных Саборах. Таксама, усякія зьмены існуючых канонаў могуць быць вырашаныя толькі Ўсяленскім Саборам. Таму, Праваслаўная Царква называецца Саборнай.





# Рэлігія й Жыцьцё

### З рукапісаў сьв. пам. Уладыкі Васіля.

Часта мы чуем такія цьверджаньні: Рэлігія ўжо аджыла свой век, яна ўжо не адпавядае нашаму жыцьцю. А некаторыя навет кажуць: Рэлігія толькі перашкаджае нам будаваць сваё жыцьцё, таму яе, як і веру ў Бога наагул трэба адкінуць, бо асноваю нашага жыцьця цяпер ёсьць толькі навука й розум людзкі.

Спрабуем разгледзіць, ці такія цьверджаньні адпавядаюць праўдзе, ці можа яны выдуманыя атэістамі, а таму і згубныя для веруючых людзей. Тысячы год таму Бог праз Майсея даў нам 10 запаветаў. Адзін з іх кажа: не забівай. А цяпер запытаемся: ці гэты запавет перастарэлы і непатрэбны нам цяпер? А таму хто мае хоць каплю розуму, той скажа: о, гэты запавет вельмі патрэбны! І навет больш таго, без гэтага запавету немагчымым ёсьць жыцьцё наагул ані ў грамадзе, ані ў дзяржаве. І шчасьлівая тая дзяржава, якая выпаўняе гэты Божы Запавет, бо там кожны чалавек мае супакой і пэўнасьць, што ягоная годнасьць, як чалавека, ня будзе патаптаная, а жыцьцё зьнявечанае, паламанае, зруйнаванае.

Некалі нам, малым дзецям, калі мы баяліся позна вечарам некуды ісьці, маці казала: перахрысьціся, дзетка, і нічога ня бойся. Мы хрысьціліся і не баяліся, і добра нам было. Чаму-ж маткі нашыя так гаварылі нам? А таму, што яны чыталі ў Сьв. Эвангельлі, як баяліся і ўцякалі перад Хрыстом усе нячыстыя сілы. Таму мацяркі і казалі нам, перахрысьціся, значыць пакліч Госпада і нічога ня бойся.

А калі мы можам быць з Хрыстом, Богам нашым, тады, як Ён кажа нам, калі выпаўняеш Запаветы Ягоныя каб быць у сталай лучнасьці з Богам, то лучнасьць гэтая і ёсьць рэлігія. Навука Хрыстовая вельмі кароткая і ясная: любі Бога і ўсіх людзей, навет непрыяцеляў тваіх, і памагай патрабуючым, не чакаючы просьбы ані заплаты. А падругое, што хочаш каб табе рабілі, тое і ты рабі другім. Гэта значыць, калі хочаш, каб табе памагалі ў бядзе, памагай і ты другім у бядзе. Хочаш, каб табе выбачалі, выбачай і ты. Хочаш, каб цябе не асуджалі, не ачарнялі, не асуджай і ты нікога. Хочаш, каб табе не рабілі крыўды, ня крыўдзь і ты нікога. І так усюды і заўсёды. Тады і будзеш Сынам Божым і запраўдным чалавекам.

Гэта простая і ясная навука Хрыстовая, якая і называецца рэлігіяй. Навука аб тым, як мы маем жыць і што рабіць, каб быць з Богам і радавацца. У гэтым і ёсьць крыніца праўды нашага жыцьця, мудрасьці Божае, нашага супакою і дабра. І хто будзе жыць згодна гэтае навукі Божае, той і станецца рэлігійным чалавекам, бо ён вызнае Бога і злучаецца з Ім, ды любіць Яго. А такім можа быць кожны бяз розніцы, якое становішча ён займае, ці якую мае асьвету: галоўнае каб мець ясны розум, добрае сэрца і шчырае жаданьне палюбіць Бога й блізкага свайго, ды кожнаму хоць маленькае дабро зрабіць ці ласкавае слова сказаць. Тады Госпад міласэрдны яшчэ болей прасьветліць розум наш, узмоцніць дух і паможа нам асягнуць такую духовую тайну, якой ніякім людзкім розумам пазнаць ня можна.

Словам, мы павінны пазнаць такую Праўду, якая ёсьць вышэйшаю за ўсе праўды людзкія, г.з. Праўду вечную, Праўду Божую. Тады зможам пазнаць і словы Хрыстовыя: „Я – Сьвятло сьвету, хто веруе ў Мяне ня ходзіць у цемры" і пазнаўшы гэта, будзем хадзіць у гэтым Сьвятле і ніколі не спатыкнемся, і вялікія цяжкасьці пераможам і радавацца будзем. А хто не пазнаў яшчэ гэтага Сьвятла, той у цемры ходзіць і ня гледзячы на ўвесь свой людзкі розум, на кожным кроку спатыкаецца, падае, няшчасьці сабе і іншым спрычыняе. Таму з дапамогаю рэлігіі пасьпяшаемся да Сьвятла, Хрыста, Бога і Спаса нашага, будзем словам і чынам славіць Яго і добра нам будзе цяпер і павек вякоў. Амін.

*З рукапісаў съв. пам. Уладыкі Васіля*

# Жыцьцё–Хвалюючае Мора

Людзкае жыцьцё падобнае мору, а сэрца падобнае хвалям... Як на моры часам бывае супакой і адбіваецца зьзяючае над ім неба, так бывае і ў душы людзкой супакой, задаваленьне, а думкі нашыя тады ясныя і прыгожыя. Але вось раптам надыйшла бура. Грозна шуміць і пеніцца мора, быццам поўнае гневу і неміласэрдзя. І паўстае адвечная думка: чаму гэта яно так і ў нашым жыцьці бывае? Чаму сум, жаль, а часам і роспач, як няпрошаныя госьці напаўняюць нашую душу? Адкуль хваробы, няўдачы, страх як ланцугамі скоўваюць нашыя грудзі? Ці-ж Айцец наш Нябесны ўжо забыўся пра нас?

Зусім прыродная і зразумелая для нас падобная думка і пачуцьцё! Але як адначасна міла для душы нашай, як цешыцца яна, калі мы ў праменьнях жыцьцядайнай веры ціха размаўляем з Богам кажучы: Госпадзі, Ты быў, ёсьць і навекі будзеш, Ты ведаеш усе клопаты мае. Ты Добры Айцец Мой! Ты памагаеш мне нясьці крыж мой. Ты хуткі памочнік у бедах маіх!

Бог-жа ёсьць жывая асоба. Ён зыйшоў з неба, нарадзіўся, памёр і ўваскрос. Таму пры ўсіх абставінах нашага жыцьця, пры няўзгодах, радасьці, горы і ў бедах, мы не забытыя Міласэрдным Госпадам. Мы толькі мусім ведаць, што Ягоныя шляхі ня ёсьць нашымі шляхамі, і думкі Ягоныя не падобныя нашым думкам. Нам часам здаецца, што Бог ня хоча прыйсьці з дапамогаю нам. Але Бог лепш за нас ведае пра жыцьцё нашае, ведае і пра нашую будучыню і часта пасылае нам Сваю дапамогу ў такіх формах, якіх мы навет зразумець ня можам. І тут толькі нашая вера ў Бога можа прынесьці нам супакой і задаваленьне. Таму, пры ўсіх абставінах, мы павінны мець давер да Бога, да Айца Нябеснага, не зважаючы якім-бы ня было бурлівым нашае жыцьцёвае мора. Бог усюды і заўсёды дбае пра нас.

Гэта паказаў Бог нам яшчэ за часоў Свайго жыцьця на зямлі, калі Ягоныя вучні былі страшна перапалоханыя ў часе буры на моры. Хрыстос пачуў іхную бяду ўчасе свае малітвы на гары. І калі падыйшоў да іх па вадзе, то страх яшчэ больш апанаваў імі, бо яны падумалі, што гэта здань і пачалі ў страху крычэць. Але Хрыстос сказаў ім: „Ня бойцеся, гэта Я". І ўвайшоўшы ў човен загадаў, каб вецер сьціх. Мора супакоілася, і апосталы моцна зьдзівіліся.



Вось такое і нашае жыцьцё. Апосталы былі дасьведчанымі ў плаваньні па вадзе. Яны ня раз перамаглі віхуры і навальніцы, а чамусьці цяпер страцілі раптам надзею на ратунак. Але падыйшоў да іх Хрыстос і выратаваў іх. Навошта-ж Хрыстос далусьціў на іх такую бяду і напачатку не сьпяшаўся з дапамогаю? А далусьціў таму, што хацеў выпрабаваць іхнюю веру, а не сьпяшаўся таму, каб яны поўнасьцю пераканаліся ў тым, што іхныя людзкія сілы і здольнасьці ім дапамагчы ня могуць.

Такія ўжо шляхі Божыя. На апосталаў была дапушчана бура і пагроза сьмерцьцю, бо гэта было ўчынена для ўзмацненьня іх у веры. Хрыстос і цяпер, пасьля Свайго Ўваскрасеньня, ходзіць па бурным моры нашым, стукае ў дзьверы сэрцаў нашых і хоча ўвайсьці ў човен душаў нашых, каб мы зразумелі адну для нас праўду і ўціхамірылі буру ў сваім сэрцы і ў душах усяго чалавецтва на зямлі. Не залежыць гэта ад нас. Не залежыць ад людзей, ні ад валадароў сьвету гэтага, а толькі ад Хрыста Спаса нашага. І калі мы гэта пазнаем і зьвернемся да Яго, то Ён ахвотна ўратуе нас і нашую сьвятую БАПЦ, якая ад пачатку свайго аднаўленьня перажывае вонкавыя і нутраныя няўзгоды. Гэта ведама для нашага Збаўцы і калі мы з вераю зьвернемся да Яго, то дапаможа нам. Бо толькі Сіла Божая можа нам дапамагчы. Уваскросшаму Госпаду і Спасу нашаму Ісусу Хрысту належыць хвала, слава цяпер, усечасна і павек вякоў. Амін.

*З рукапісаў съв. пам. Уладыкі Васіля.*

---

## З ДЗЕЙНАСЬЦІ ПРАТАЯРЭЯ ЯНА ПЕКАРСКАГА Ў АНГЛІІ

Пратаярэй Ян Пекарскі абслугоўвае парахвіі ў Лондане, Кэмбрыджы, Бірмінгам-Вульвэргэмптон і Стэвэнадж-Лянглей. Па чарзе кажную нядзелю Божыя службы адбываюцца рэгулярна. На гэтых службах, апрача беларусаў, прыходзяць памаліцца й праваслаўныя іншых нацыянальнасьцяў. Парахвіі малакольксныя, а таму ня могуць здабыцца на ўласныя будынкі й Божыя службы адбываюцца ў будынках Англіканскае Царквы.

Айцец Ян Пекарскі вельмі дзейны ў вонкавых дачыненьнях. Ён быў прыняты і меў гутарку з Экзархам Канстантынопальскага Патрыярха на Вяліка-Брытанію. Пры гэтай нагодзе ён-жа інфармаваў Экзарха аб становішчы Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Вольным Сьвеце і ў Эўропе. Пры спатканьні Экзарх выказаў сваю спагаду й прыхільныя адносіны. Пасьля гэтых візытаў Экзарх Канстантынопальскага Патрыярха ў Англіі абменьваецца прывітаньнямі ў часе Вялікіх сьвятаў Раства і Ўваскрасеньня Хрыстовага з Блаж. Мітрапалітам Андрэем.

У мінулым годзе ў Парахвіі БАПЦ ў Кэмбрыджы на парахвіяльным сьвяце Раства Прасьвятое Багародзіцы адбылася ўрачыстая Саборная Божая Служба, у якой прымалі ўдзел адзін сьвятар з грэцкае юрысдыкцыі й сьвятар з дыяканам з юрысдыкцыі Мітрапаліта Антонія. На гэтай службе прысутнічала каля 100 асобаў праваслаўных розных нацыянальнасьцяў.

19 чэрвеня 1982 году Прат. Ян Пекарскі служыў з епіскапам Грэцкае юрысдыкцыі, уладыкам Калістам. З епіскапам Калістам а.Ян Пекарскі служыў 4 разы раней, калі ён быў яшчэ архімандрытам.

Падчас візыты ў Англіі Папы Яна Паўла II, прат.Ян Пекарскі быў запрошаны Кардыналам Гюмам у Вэстмінстэрскую Катэдру, дзе ён быў сярод высокіх царкоўных і сьвецкіх дастойнікаў.

# ХРОНІКА

## ПАРАХВІЯЛЬНАГА ЖЫЦЬЦЯ Ў МЭЛЬБУРНЕ, АЎСТРАЛІЯ

(1) Згодна з нашымі традыцыямі і звычаямі, пасьля Калядных сьвятаў настаяцель памеснае парахвіі БАПЦ, а.Аляксандар, наведаў суродзічаў-вернікаў з Ярданскай Вадою, каб выканаць чын акрапленьня дамоў. Трэба адзначыць, што суродзічы добра памятаюць і належна прыгатоўваюцца (засланы стол, хлеб, соль ды запаленая сьвечка) да гэтага хвалы-годнага чыну. Найбольш пацяшаючым ёсьць тое, што вернуючыя суродзічы ў пажылым веку так умела пераказваюць значэньне падобных чынаў моладзі, наступнаму пакаленьню – тым што заўтра займуць нашыя месцы.

(2) У нядзелю, 6.2.1983 г., ў Мэльбурне (вэстэрн дістрыкт) быў зладжаны міжнародны фэстываль: танец, песьня, рукадзельная ўмеласьць, прыгатаваньне страваў. Чарговы расклад выступленьняў адбыўся ў альфабэтным парадку і таму беларускай групе (7 маладых дзяўчат) прыпала быць першай на сцэне. Крыху нязручна для ўдзельнікаў, але, дзякуючы добра падгатаваным маладым дзяўчатам, заслуга сястры Тамары, паказ даў добры вынік. Суродзічы Мэльбурну могуць ганарыцца здольнасьцямі нашай моладзі. Хацелася-б бачыць, каб лік удзельнікаў павялічыўся – каб нашыя нацыянальныя песьні, танцы, вопратка, знаёмілі з намі шматлікія нацыянальнасьці, з якіх складаецца насельніцтва Аўстраліі.

(3) 13.2.1983 г. адбыўся Чарговы Гадавы Справаздаўчы Сход Парахвіі. Выслухаўшы справаздачы Парахвіяльнае Рады, прысутныя на Сходзе былі зьдзіўленыя з асягненьняў – Парахвія вывязалася вельмі добра з усіх сваіх абавязкаў. Прысутныя выказалі спадзяваньні, што бягучы 1983 год будзе яшчэ больш шчодрым на добрыя чыны і асягненьні ў царкоўным жыцьці, што ў сваю чаргу паслужыць для дабра ўсіх сумленных вернікаў.

(4) 14.2.1983 г. адбылося афіцыяльнае адкрыцьцё „Выстаўкі Славянскае Біблії", якую арганізаваў Аддзел Славянскае Мовы ў Монаш Унівэрсытэце ў Мэльбурне, і якая будзе прадаўжацца шэсьць тыдняў. Выстаўку ўзбагацілі шматлікія, у тым ліку і беларускія, выданьні Біблії і сьв. Пісьма, некаторыя з іх вельмі даўнага выпуску, у беларускай, баўгарскай, харвацкай, чэскай, македонскай, польскай, расейскай, славенскай, сэрбскай і ўкраінскай мовах. Наша Парахвія БАПЦ паклапацілася пра адпаведны матарыял з мінулага і сучаснага. Беларускі стэнд выклікаў шмат зацікаўленьня. Перадусім, „Гравюры Францішка Скарыны", ды запіска пра важнасьць укладу ў фармаваньне і разьвіцьцё нашага народу прыняцьця ім Хрысьціянскае Веры. Выдана на ангельскай мове спэцыяльная брашура ў якой, між іншым, успамінаюцца працы Ефрасіньні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Францішка Скарыны, ды апошняе выданьне Біблії ў 1973 г. праз Др. Я. Станкевіча. Пры афіцыяльным адкрыцьці выставы Славянскай Біблії, Парахвію БАПЦ рэпрэзэнтаваў а.Аляксандар з матушкай.



Парахвіяне абслугоўваных парахвіяў шануюць свайго настаяцеля Прат. Яна й высока цэняць ягоную ахвярную працу для дабра Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы й Беларускага Народу. – *Вернік*



# Адносна Нелегальнага „Сабору"

## ПАСТАНОВА АГУЛЬНАГА ГАДАВОГА СХОДУ ПАРАХВІЯНАЎ У БРУКЛІНЕ

У сувязі з бунтамі супроць аўтарытэту Мітрапаліта і легітымнай царкоўнай Улады, што ад 1980 г. маюць месца ў Амэрыканскай Епархіі БАПЦ, Агульны Гадавы Сход парахвіянаў Парахвіі пры Катэдры імя сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне пастанаўляе:

(1) Выразіць поўнае і безагаворнае прызнаньне аўтарытэту і ўлады Першагерарха Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Мітрапаліта Андрэя і яго Заступніка Прэасьвяшчэннага Епіскапа Ізяслава ды салідарна падтрымаць іх у іхным ахвярным і стойкім змаганьні за ўтрыманьне суцэльнасьці БАПЦ у абліччы грознага наступу на Яе з боку бязьлітаснага ворага.

(2) Заклеймаваць, як здраду БАПЦ і яўную службу інтарэсам Ворага, ідэю скліканьня Надзвычайнага Сабору БАПЦ у 1983 г., якую праводзіць пазбаўлены сану і адлучаны з БАПЦ былы арх.Мікалай і ягоныя пратэктары, пакорныя служкі Сатаны, супроць волі Мітрапаліта і супроць пастановы Сабору Епіскапаў БАПЦ. Поўнасьцю падпарадкавацца Архіпастарскаму Распараджэньню Мітрапаліта Андрэя ад 6-га лютага 1983 г., якое забараняе вернікам і духоўнікам БАПЦ усякі ўдзел у гэтай справе.

– *Бруклін, Ню Ёрк, дня 10-га красавіка 1983 г.*

## АСЬВЕДЧАНЬНЕ

**Протапрасьвіцера Д-ра Аўгена Смаршчка Кіраўніка БАПЦ на Эўропу**

ў справе скліканьня „Надзвычайнага Сабору, адлучаным і пазбаўленым Саборам Епіскапаў БАПЦ духоўнага сану, былым арх.Мікалаем:

„Ніхто ня мае права склікаць Сабор БАПЦ, апрача Першагерарха й процiў яго волі".

– *Гэвэр, 9.3.1983, Бэльгія*

## ДА КАГО ГЭТА АДНОСІЦЦА

**Парахвіяльная Рада, Парахвіі Віленскіх Мучанікаў Сьв. БАПЦарквы ў Мэльбурне, Аўстралія,**

на Чарговым Паседжаньні разглядала дапіску (23 студзеня 1983) заклікаючую на „Надзвычайны Сабор БАПЦ", што мае адбыцца 28, 29 і 30 травеня, 1983 г.

ПАСТАНОЎЛЕНА

Таму, што,

(1) Успамянуты „Надзвычайны Сабор БАПЦ" склікаецца без веды-згоды й Благаславенства Першагерарха БАПЦ, Блажэньнейшага Мітрапаліта Андрэя;

(2) Не склікаецца Саборам Епіскапаў сьв. БАПЦ;

(3) Не склікаецца Царкоўнаю Радаю БАПЦ, ані Кансысторыяй сьв. БАПЦ, і

(4) Не жадаючы нясьці адказнасьці за сьведамае пашырэньне няладаў у лоне сьв. БАПЦ, што ў сваю чаргу можа спрычыніць „РАСКОЛ" БАПЦ; дзеля гэтага,

На аснове вышэй западанага, Парахвіяліная Рада лічыць, прапанаваны „Надзвычайны Сабор БАПЦ", абмінаючы легітымнае кіравецтва сьв. БАПЦ нелегальным і, таму ня можа вітаць, тым больш браць удзел у гэтак-званым „Надзвычайным Саборы БАПЦ", наадварот, гэтую падзею ўважае як царкоўны нpropaganда... 

— *Старшыня Парах. Рады, 13.3.1983.*

## З ПРАТАКОЛУ №3

### Спэцыяльнага Агульнага Сходу Парахвіян Парафіі Сьвятых Апосталаў Пятра і Паўла БАПЦ у Адэлайдзе, Паўдзённая Аўстралія, ад 13-га Сакавіка 1983 году.

РЭЗАЛЮЦЫЯ

Мы Парафіяне парафіі Сьвятых Апосталаў Пятра і Паўла БАПЦ у Адэлайдзе Паўдзённая Аўстралія ПАСТАНАВІЛІ:

(1) Не браць удзелу ў Саборах скліканых толькі адной часткай БАПЦ.

(Пункты №2 і №3 выказваюць незадаваленьне з існуючых судоў і падтрымліваюць непадзельнасьць БАПЦ.)

— *К. Станкевіч, Старшыня сходу і Парафіяльнай Рады*
*і подпісы 4-х іншых сяброў Парафіяльнае Рады*

## ДА КАСЫСТОРЫІ Б.А.П.Ц., САЎТ БАЎНД БРУК, З.Ш.А.

### і Высокадастойным: Мітрапаліту Андрэю і Япіскапу Ізяславу

Сьпяшаю паведаміць, што я атрымаўшы Архіпастырскае Распараджаньне Мітрапаліта аб забароне разкольніцкіх сходаў у Царкве, а такжа Пасланьне Сабору Япіскапаў БАПЦ ў справе царкоўнага закалоту і маючы на ўвазе паінфармаваць аб гэтым Разпараджаньні і Пасланьні іншых парафіянаў, 27 сакавіка (1983) ў нядзелю я пайшоў да нашае Царквы сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта пры 524 Сант Клярэнс, маючы пры гэтым і перасланае на маё імя запрашэньне да ўдзелу на сходзе, які мелі правесьці закалотчыкі, каб выбраць „дэлегатаў" на свой нелегальны „сабор".

Калі я зайшоў да Царквы ў 10:30 гадзін, да мяне адразу прыскочыў Вальтэр (Віцька) Навіцкі з крыкам: чаго я прыйшоў? На мой адказ, што я прыйшоў бо маю пісьмовае запрошаньне на іх сход і прынёс Распараджаньне Мітрапаліта і Пасланьне Сабору Япіскапаў БАПЦ, — Навіцкі кінуўся сілком выпіхаць мяне з Царквы выкрыкваючы: „Вон адсюль, мы не прызнаем Мітрапаліта Андрэя! Нам яго прапаганды ня трэба!" Дабяжаўшы, Барыс Кірка пачаў нагаворваць мяне, каб я пакінуў царкву бо мяне саб'юць. Я мусяў пакінуць Царкву, бо рэшта *тэрарызаваных* парафіян баялася мяне бараніць.

У сувязі з гвалтам над мною, я тут-жа зьвярнуўся да бліжэйшага паліцыйнага пастарунку (Аддзел 14, тал.964—2437), атрымаў асысту ў асобе сяржанта Томчак, з якім я зноў зьявіўся да Царквы і паліцыя склала пратакол на Навіцкага, а я ў гэты час раздаў вернікам вышэйуспомненыя Разпараджаньне Мітрапаліта і Пасланьне Сабору Япіскапаў. Успомнены В. Навіцкі, М. Ганько і Касьцюкевіч кінуліся да сталоў, на якіх я разкладаў Разпараджаньне і Пасланьне і пачалі іх рваць ды крычаць да вернікаў: „Не бярыце гэтае ў рукі — *гэта камуністычная прапаганда!*"

Зазначаю, што за адным із сталоў сядзеў і былы арх. Мікалай і называны гэнэралам і Віцэпрэзыдэнтам БНР — др. Рагуля, ані словам не рэагуючы на гэты разбой. Усё гэтае бачыла і паліцыя. Разам з паліцыянтам, пад яго ахаронай, я пакінуў Царкву.

Адміністратар Царквы сьв.Кірылы Тураўскага (БАПЦ) ў Таронце,
*Пятро Шышко*

*28-га сакавіка 1983*

## БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

### Настаяцель БАПЦарквы ў Вялікай Брытаніі

...У Статуце БАПЦ п.39, выразна й ясна сказана хто мае права склікаць Сабор БАПЦ, ....

Бяручы пад увагу ўсё гэта, я як сьвятар, не магу ўзяць удзел у Надзвычайным Саборы і так-жа Парахвіі якія я абслугоўваю. Мы ўважаем, што гэты Сабор склікаецца „Нелегальна".

Я не магу зыгнараваць Мітрапаліта Андрэя як Першага Герарха, Епіскапа Ізяслава, ды Кансысторыю.

З Любоўю ў Хрысьце,
—*Мітр.Прат.Янка Абабурка*
19 красавіка 1983

# Мэльбурн — Аўстралія

Парахвія Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Сьв. Віленскіх мучч. Антона, Яна й Эўстафа была заснаваная ў 1959 годзе а. Александрам Кулакоўскім, які й цяпер зьяўляецца яе Кіраўніком. Колькасна парахвія невялікая, але парахвіяне яе пабожныя й ахвярныя людзі, якія дацэньваюць важнасьць свае Нацыянальнае Царквы на Чужыне. На працягу 20-ці гадоў Божыя Службы адбываліся ў нанятым царкоўным будынку. Нам добра ўсім ведама аб клопатах з прыбіраньнем пакою да кажнае службы, бо ўсе нашыя парахвіі ў такі самы спосаб пачыналі сваю працу. Праз увесь час парахвіяне марылі аб куплі собскага будынку, але на гэта патрэбавалася большая сума грошай. Нарэшце ў палове 1978 году быў куплены стары будынак удобрым і зручным мейсцы, але ён патрабаваў грунтоўнага рэмонту. Пад кіраўніцтвам свайго Настаяцеля, протапрасьвіцера а. Александра Кулакоўскага, парахвіяне з вялікім запалам і ахвярнасьцю прыступілі да зборкі ахвяраў і працы пры набытым будынку. Праца праводзілася ў суботнія й вольныя ад працы дні. Некаторыя людзі, нятолькі ахвяроўвалі грошы й сваю працу, але й прыносілі некаторыя будаўляныя матарыялы.



*Іканастас у царкве Сьв. Віленскіх Мучанікаў Антона, Яна й Еўстафа ў Мэльбурне, Аўстраліі. 22 лістапада 1981 году адбылося пасьвячэньне якое выканаў Уладыка Епіскап Ізяслаў.*

У нядзелю 12 ліпеня 1981 году была адслужана першая Багаслужба ў новай уласнай царкве, а 20 і 21 лістапада гэтага-ж году адбылося ўрачыстае пасьвячэньне Храму. Чын пасьвячэньня выканаў, прыехаўшы з Амэрыкі Яго Прэасьвячэнства Епіскап Ізяслаў.

Гэта 9-ты царкоўны будынак Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Вольным Сьвеце, а 9 парахвіяў адбываюць свае службы ў найманых памешканьнях пры чыжых цэрквах.

У нядзелю 20 сакавіка сёлета ў Мэльбурне адзначаліся 65 ўгодкі абвешчаньня Беларускае Народнае Рэспублікі ў 1918 годзе. Протапрасьвіцер а. Александар Кулакоўскі адслужыў спэцыяльны малебен, на якім прысутнічала каля 100 суродзічаў. Пасьля гэтага ў прыцаркоўнай залі быў прачытаны рэфэрат на тэму нацыянальнага сьвята, а маладыя дзяўчаты прыгожа прапяялі дзьве беларускія песьні: „Ручнікі" і „Хлопец пашаньку пахае" за што атрымалі гучныя вопleскі. Сястрыцтва Парахвіі падрыхтавала багаты супольны абед, падчас якога працягвалася сяброўская бяседа. Парахвіяне й госьці былі вельмі задаволены з гэтага сьвяткаваньня й трэба спадзявацца, што й надалей беларускае нацыянальнае жыцьцё ў Мэльбурне будзе гуртавацца пры сваёй парахвіі.

У справе атрыманага звароту былога арх. Мікалая на вызначаны ім нелегальны „Сабор", выконваючы загад Першагерарха, Яго Блажэнства Мітрапаліта Андрэя, парахвія пастанавіла ня прымаць удзелу ў гэтай супраць-царкоўнай дзейнасьці.

* * *



Дзеля гістарычнае даведкі падаецца ніжэй паіменны сьпіс ахвярадаўцаў і ахвяраў (у аўстралійскіх далярах) на куплю й уладжаньне царквы й залі ў Мэльбурн, Аўстралія:

1. Протапр.а.Александар $ 1,500
2. М.Борсток 1,000
3. П.А.Каспэровіч 1,000
4. Р.І.В.Кулакоўскі 1,000
5. А.Л.Мілаград 1,000
6. Ул.А.А.Шчэрба 1,000
7. Н.У.Усьцінаў 1,000
8. З.К.Чэлюк 500
9. С.Е.Круковіч 500
10. Парахвія Адэлайды 500
11. Н.Л.Пятрэнко 500
12. О.М.Субач 500
13. М.М.Тарашкевіч 500
14. І.Заяц 500
15. А.В.Малочко 400
16. А.Т.Петрукевіч 400
17. І.В.Бараноўскі 300
18. Т.А.А.Басарановіч 300
19. Беларуская Асац.З.А. 300
20. В.Е.Дуяковіч 300
21. Ул.А.Карп 300
22. А.Ц.Кукель 300
23. Е.Н.Груша 250
24. Д.А.Кажура 250
25. І.К.Шэўчук 250
26. М.Субач 250
27. М.Нікан 250
28. Р.Г.Брадбуры 200
29. Ул.М.Ціцільша 200
30. Д.Груша 200
31. І.Г.Контэк 200
32. Ф.К.Пакідко 200
33. Е.Шэўчук 200
34. Ул.Шэўчук 200
35. М.Скабей 200
36. І.Д.Стасевіч 200
37. Т.М.Татараў 200
38. І.Валенцёнак 200
39. В.Зажацкі 200
40. Е.М.Неборскі 120
41. А.Палікарпоўскі 120
42. І.Д.А.Сьвяты 120
43. Ул.Аксіончык 100
44. А.М.Басарановіч 100
45. Н.І.Басарановіч 100
46. К.А.В.Хаванскі 100
47. І.Г.Дохэрты 100
48. Ул.В.Дамашэвіч 100
49. С.А.Дурыц 100
50. М.Галоўка 100
51. Т.М.Карась 100
52. М.М.Камарэц 100
53. Н.Казлова 100
54. А.Мароз 100
55. А.Паташук 100
56. Г.В.Шэйпак 100
57. М.Шэко 100
58. А.Суліван 100
59. М.Заяц 100
60. З.Кадняк 60
61. Ул.Н.Сіткевіч 60
62. В.Багдановіч 50
63. А.Дашкевіч 50
64. Н.Галіна 50
65. П.Гуз 50
66. П.Груша 50
67. І.Яшчэнко 50
68. І.Дуяковіч 50
69. Ф.А.Корбут 50
70. М.Косабуцкі 50
71. М.Д.Кубрак 50
72. Ул.Лінкевіч 50
73. В.Лагун 50
74. М.Мазырко 50
75. М.А.Наборскі 50
76. Л.Л.Окслей 50
77. Ул.Раманоўскі 50
78. І.Ф.Рамашко 50
79. М.Тамона 50
80. В.М.Захароў 50
81. А.Жураўлевіч 50

Іншыя большыя ахвяры:

82. Сястрыцтва Мэльбурну 960
83. В.А.Русак 750
84. В.М.Груша 700
85. М.Н.Яўневіч 540
86. Парахвія Мэльбурну 356
87. Ул.Мітрапаліт Андрэй 232
88. Т.Курановіч 150
89. Адэлайда 130
90. Е.Жызьнеўскі 89
91. Д.М.Макарэвіч 70

Іншыя меншыя ахвяры далі: В.Л.Грыгорук, Т.Ольга, І.О.Лебар, Т.М. Рабчэнко, З.Аквіцкі, М.Данільчэнко, І.В.Дзьвяк, Г.К.Кананенко, А.Сальдан, Е.Подлеўскі, І.І.Захаров, К.Зэлям, Ф.Жоледзеўскі, В.Жоледзеўскі, І.Данілічэнко, Ф.Гарасіменко, П.Шэліст, А.Сесетко, Г.А.Веліканов, Ф.Фалько, М.Яўневіч, К.Гежова, і В.Мэдіч.

Агульная сума ахвяраў каля 25,000 даляраў.

## ДА 40-ка ЛЕЦЬЦЯ САБОРУ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ 1942 ГОДУ

1-га верасьня 1939 году пачалася вайна Нямеччыны з Польшчай. На аснове савецка-нямецкай умовы, 17 верасьня савецкія войскі пачалі займаць Заходнюю Беларусь. Такім чынам адбылося злучэньне Беларусі падзеленай Рыскім Трактатам з 1921 году. У Заходняй Беларусі, акупаванай Польшчай, царкоўнае жыцьцё было наладжана й мела 3 епархіі Праваслаўнай Царквы: Віленскую, Гродненскую й Палескую. Для гэтых земляў у 1924 годзе была наданая „Томасам" Канстантынопальскага Патрыярха Аўтакефалія. Сілай факту злучэньня Беларусі гэтая Аўтакефалія пашырылася на ўсю яе тэрыторыю.

У Ўсходняй Беларусі савецка-камуністычная ўлада амаль дашчэнту зьнішчыла Праваслаўную Царкву. З першага дня савецкае ўлады ў Заходняй Беларусі пачаліся масавыя арышты й дэпартацыі ў канцэнтрацыйныя лягеры Савецкага Саюзу некаторых катэгорыяў людзей, у тым ліку духавенства й вернікаў Праваслаўнае Царквы. Такі стан трываў нядоўга, бо 22 чэрвеня 1941 году пачалася вайна паміж Нямеччынай і Савецкім Саюзам. Нямецкія войскі маланкавым тэмпам пачалі займаць тэрыторыю Беларусі. На працягу месяца ўся тэрыторыя была акупавана немцамі.

У Ўсходняй Беларусі царкоўна-рэлігійнае жыцьцё было разбурана дашчэнту. Ня было ніводнага епіскапа, ані навет сьвятароў. Цэрквы былі пазачыняныя, або перароблены на склады, тэатры, а шматлікія зусім разбураны. Манастыроў ня было, манахі паразбягаліся, паўміралі ў турмах і высылках. У сталіцы Беларусі Менску ўцалела толькі адна царкоўка на вайсковых магілках за горадам. Уцалелая горстка сьвятароў, якія хавалі свой сан ад прасьледу, цяпер пачалі выпаўняць свае сьвятарскія абавязкі. Веруючыя людзі з вялікай любоўю прымалі гэтых слугаў Божых і пачалі адбудоўваць свае разбураныя цэрквы, прыносячы перахоўваныя дома іконы, царкоўна-багаслужэбныя рэчы й кнігі. Багаслужбы пачаліся адбывацца ў перапоўненых народам цэрквах. Сьвятаром прыходзілася выконваць таінства хросту, дзесяткамі ў адзін раз, дзяцей і дарослых. Гэта было сапраўднае другое хрышчэньне й як-бы новае адраджэньне Праваслаўнае Веры на землях Усходняе Беларусі.

Нямецкія акупацыйныя ўлады не ўмешваліся ў царкоўныя справы й не перашкаджалі ў арганізацыі рэлігійнага жыцьця.

У той час у Жыровіцкім манастыры каля Слоніма знаходзіліся мітрапаліт Панцялейман і епіскап Вэнэдыкт. У сталіцы Менску была ўстаноўлена нямецкая цывільная ўлада пад назовам Гэнэральны Камісарыят Беларусі.



У другой палове верасьня 1941 году прыехаў у Менск епіскап Вэнэдыкт, каб атрымаць дазвол ад нямецкае ўлады на арганізацыю Беларускае Праваслаўнае Царквы. Ён наведаў Гэнэральны Камісарыят і меў гутарку адносна кіраўніцтва Беларускае Праваслаўнае Царквы. У выніку гэтае размовы епіскап Вэнэдыкт атрымаў ліст на імя Мітрапаліта Панцялеймана (Ражноўскага) з дня 3-га кастрычніка 1941 году, у якім былі паданы наступныя ўмовы:

(1) Праваслаўная Царква ў Беларусі кіруецца сваімі сьвятымі канонамі і нямецкая ўлада ня ўмешваецца ў яе нутраное жыцьцё;

(2) Праваслаўная Царква ў Беларусі павінна мець назоў „Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Нацыянальная Царква";

(3) Павінен быць апрацаваны статут гэтае Царквы.

Мітрапаліт Панцялейман і епіскап Вэнэдыкт дня 3-га кастрычніка 1941 году адбылі афіцыйнае паседжаньне Сабору Епіскапаў на якім пастанавілі: прыняць да ведама й выкананьня ўмовы Гэнэральнага Камісарыяту Беларусі; перанесьці рэзыдэнцыю мітрапаліта з Жыровіцкага манастыра ў сталіцу Менск; прысвоіць мітрапаліту Панцелейману тытул: *Мітрапаліт Менскі й усяе Беларусі.* Яны добра разумелі, што ня могуць герархічна абслужыць усю Беларусь і пастанавілі пасьвяціць некалькі епіскапаў для Ўсходняе Беларусі. Пасьля далучэньня Заходняе Беларусі да БССР у 1939 годзе, у Варшаве быў створаны Беларускі Нацыянальны Камітэт, а таксама Беларуская Царкоўная Рада пад старшынствам мітрапаліта Дыянісія. На сваім паседжаньні 9-га верасьня 1941 году Беларуская Царкоўная Рада апрацавала асобны мэмарандум да нямецкае ўлады, каб атрымаць дазвол на выезд у Беларусь кандыдатаў на епіскапаў і архімандрытаў беларусаў Феафана (Протасэвіча), Філафея (Нарко) і Апанаса (Мартоса).

Два апошнія хіратанізаваны ў епіскапскі сан: Філафей — 23 лістапада 1941 году ў Жыровіцкім манастыры й Апанас — 8-га сакавіка 1942 году ў Менску.

Мітрапаліт Дыянісі хацеў захаваць сыаю ўладу на землях Беларусі й Украіны й зьвярнуўся да Гэнэрал Губэрнатара Польшчы Фішэра аб дазволе на такое кіраўніцтва, аднак такога дазволу ён не атрымаў і мусіў даць падпіску, што ня будзе ўмешвацца ў царкоўныя справы на землях Беларусі й Украіны.

З пераездам Мітрапаліта Панцялеймана й епіскапа Філафея ў Менск, пачалі адбывацца нарады Сабору Епіскапаў, на якіх разглядаліся арганізацыйныя праблемы з падзелам Царквы на епархіі. 17 травеня 1942 году быў хіратанізаваны ў сан епіскапа пратаярэй Сымон Сеўба з імем Сьцяпана. Была створана Мітрапалічая Рада й паклікана Статутовая Камісія для апрацоўкі статуту Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, а таксама пачалася падрыхтоўка да скліканьня Сабору Царквы дзеля фармальнага абвешчаньня Яе Аўтакефаліі.

Мітрапаліт Панцялейман, будучы расейскім патрыётам, не жадаў абвешчаньня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, таму нямецкія ўлады 2-га чэрвеня 1942 году вывезьлі Мітрапаліта Панцялеймана ў былы манастыр Ляды, Смалявіцкага раёну, і загадалі арх. Філафею, як Заступніку Мітрапаліта, заняцца справай скліканьня Сабору. Дзеля того, што згодна з мананічнымі правіламі, Сабор Праваслаўнае Царквы склікае Першагерарх Мітрапаліт, Арх. Філафей мусіў мець дазвол ад Мітрапаліта

Панцялеймана. У сувязі з гэтым, Арх. Філафей выслаў у Ляды свайго аканома Сяргея Мэнгеля з лістом да Мітрапаліта Панцялеймана. Мітрапаліт выдаў дэкрэт наступнага зьместу: „Ляды 1-га жніўня 1942 году. Заступніку Мітрапаліта Ўсяе Беларусі Высокапраасьвяшчэннаму архіеп. Філафею. Жадаючы, каб фактычна праведзеная мной Аўтакефалія атрымала й належнае афармленьне, я даручаю архіеп. Філафею скліканьне Сабору беларускай праваслаўнай герархіі разам з выбранымі прадстаўнікамі духавенства й веруючых міранаў. І гэтым я яшчэ раз пацьвярджаю сваю заўсёдную гатоўнасьць працаваць у напрамку пажаданым цывільнымі ўладамі. Мітрапаліт Панцялейман".

Атрымаўшы такое паўнамоцтва архіеп. Філафей вызначыў дату адчыненьня Ўсебеларускага Сабору на 28 жніўня 1942 году, аб чым і разаслаў цыркулярнае распараджаньне з загадам правесьці выбары дэлегатаў. На парадку дня былі пастаўлены толькі два пункты: абвешчаньне Аўтакефаліі Царквы й зацьверджаньне Яе Статуту. Перад адчыненьнем Сабору, архіеп. Філафей атрымаў ад мітрапаліта Панцялеймана ўпаўнаважаньне на правядзеньне нарадаў Сабору.

30 жнівеня 1942 году, пасьля малебену ў мітрапалічай Прэабражэнскай царкве, была адчынена нарада Сабору пад старшынствам Заступніка Мітрапаліта Архіепіскапа Філафея.

На Саборы прысутнічалі: Архіепіскап Філафей, епіскапы Афанасі й Сьцяпан, 43 сьвятары й 64 прадстаўнікі міранаў. Сабор прыняў пастанову аб аўтакефаліі Царквы пад назовам „Сьвятая Праваслаўная Беларуская Аўтакефальная Царква". Пад гэтым назовам быў прыняты й Яе Статут, які складаецца з 114 параграфаў.

Пасьля Сабору Сынод Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы 20 красавіка 1943 году выслаў паведамленьне да Канстантынопальскага Патрыярха аб гістарычным адраджэньні Беларускае незалежнае Царквы. Дакумэнт быў даручаны нямецкім акупацыйным уладам з просьбай перасляньня Канстантынопальскаму Патрыярху.

— *Кансысторыя БАПЦ*



## ДА ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ І ПРЫХІЛЬНІКАЎ „ГОЛАСУ ЦАРКВЫ"

Гэты нумар *Голасу Царквы* выходзіць пасьля доўгага перапынку, спрычыненага адыходам ад рэдактарскай працы сп. Міхася Міцкевіча, якому тут выражаем шчырую і сардэчную падзяку за даўгалетнюю працу пры выдаваньні нашага часапісу.

Кансысторыя ўзнаўляе выдаваньне *Голасу Царквы,* як неабходнага злучва паміж Кіраўніцтвам Царквы і расьцярушанымі па ўсім сьвеце вернікамі. Цана адзіночнага нумару ўстанаўляецца на два амэрыканскія даляры. Адначасна, заахвочваем усіх нашых прыяцеляў да складаньня ахвяраў на гэтую важную мэту. Спадзяемся на шырокую падтрымку з боку нашых чытачоў і прыхільнікаў усюды, дзе б'ецца беларускае сэрца.

Усе ахвяры і лісты просім перасылаць на наступны адрас: HOLAS CARKVY, c/o V. N. Horoshko, Esq., 233 Broadway, New York, N.Y. 10003.